Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

13 чэрвеня 2014 года №24 (998)

Адна зямля

Мядзел, Астравец, Смаргонь, Вілейка, Ашмяны, Маладзечна, Мінск

**Адзінокі рыцар жадае пазнаёміцца**

Пра захапленне маладзечанца Аляксандра Шоца

старонка 5



**Усміхніцеся свету, і свет у адказ усміхнецца вам!**

Парады псіхолага

старонка 20

**“Маладзечна-2013” – трэцяя перамога запар**

с. 22

**Чытайце і каментуйце абноўлены сайт! Rh.by**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Пачынаецца фестываль

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёння, 13 чэрвеня, адбудзецца ўрачыстае адкрыццё XIV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі “Маладзечна-2014”, у межах якога пройдзе заключны этап конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні. Фестываль будзе доўжыцца два дні.

### Адкрылі пляцоўку для міні-футбола

**АСТРАВЕЦ.** Новую сучасную пляцоўку для гульні ў міні-футбол адкрылі 12 чэрвеня. Дзякуючы спецыяльнаму пакрыццю на пляцоўцы можна будзе гуляць пры любых умовах надвор'я. Такое футбольнае поле пятае па ліку ў Гродзенскай вобласці.

### Падарылі аўтобус дзецям-інвалідам

**ВАЛОЖЫН.** 1 чэрвеня ў Івянецкі дзіцячы дом-інтэрнат для дзяцей з асаблівасцямі фізічнага развіцця завітала дэлегацыя з Францыі. Прадстаўнікі дабрачыннай арганізацыі “Ротары клуб” падарылі спецыяльны мікрааўтобус для перавозкі дзяцей на інвалідных калясках. Транспарт разлічаны на 11 пасадачных месцаў, умяшчае пяць інвалідных калясак, абсталяваны спецыяльным пад'ёмнікам.

### Індыйская выстава

**МЯДЗЕЛ.** У музеі народнай славы праходзіць выстава “Там, дзе купаюцца ў Гангу світанкі”. Прадстаўлена яна пасольствам Індыі ў Беларусі. На выставе можна пабачыць нацыянальнае адзенне, малюнкі на сітцы, шкатулкі ды іншае, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Таццяна Пісарчык**.

**Аддзел інфармацыі.**



# “Проста захацелася некага забіць”



Калаж “РГ”.

Прычына забойства пенсіянеркі ашаламляе і не ўкладваецца ў галаве – проста захацелася некага забіць… Цяпер хлопцу пагражае смяротнае пакаранне.

**МАЛАДЗЕЧНА. З такім матывам 18-гадовы хлопец забіў 73-гадовую пенсіянерку.**

Трагедыя адбылася шостага чэрвеня непадалёк ад чыгуначнага прыпынку “Мясата”. У Маладзечанскі РАУС патэлефанавала касірка гэтага прыпынку і паведаміла, што там забілі жанчыну.

73-гадовая пенсіянерка, жыхарка Мінска, у той дзень прыехала на лецішча ў Мясату. Прыехала на свой прыпынак a 10-й гадзіне раніцы, выйшла з цягніка і пайшла адна па палявой дарозе ў бок лецішча. Там яе дагнаў 18-гадовы хлопец, навучэнец Маладзечанскага політэхнічнага каледжа, жыхар вёскі Асавец.

> **Маладзён дагнаў жанчыну, дастаў з заплечніка малаток і пачаў біць яе па грудзях, плячах, спіне. Ад удараў малаток зламаўся. Тады хлопец дастаў з заплечніка нож і нанёс жанчыне не менш за пяць-шэсць удараў у шыю, галаву, грудзі, плечы. Жанчына памерла на месцы.**

Усяго хлопец нанёс не менш за 16 удараў. У гэты час яго заўважылі дарожныя рабочыя. Хлопец паспрабаваў збегчы з месца злачынства ў лес. Але двое рабочых яго затрымалі.

Пасля, на допыце, адказваючы на пытанне аб тым, што стала прычынай такога страшнага ўчынку, хлопец адказаў, што ў яго былі праблемы ў сям'і, узнікла непаразуменне з бацькам. Да таго ж, у той дзень ён пасварыўся са сваёй дзяўчынай.

> **І на пытанне следчага адказаў: “Проста мне ў той дзень раптам захацелася некага забіць”.**

Хлопец наўмысна прыхапіў з сабой малаток і нож, сеў на электрацягнік на станцыі Уша, высачыў у цягніку адзінокую жанчыну і мэтанакіравана пайшоў за ёй, каб забіць.

Пра гэта расказаў “Рэгіянальнай газеце” старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

– Хлопец раней не быў судзімы, на ўліку нідзе не стаяў. У момант затрымання быў абсалютна цвярозы.

За забойства з асаблівай жорсткасцю састарэлага чалавека, калі віна наўмысніка будзе даказаная, яму пагражае пазбаўленне волі ад 8 да 25 гадоў, пажыццёвае зняволенне або смяротнае пакаранне, згодна з артыкулам 139, частка 2, Крымінальнага кодэкса РБ.

**Наталля ТУР.**

15 ЧЭРВЕНЯ – ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА

# Вандроўка медыкаў па Вяллі

**7-8 ліпеня сябры-медыкі і іх сваякі выбраліся ў паход-сплаў па Вяллі.**

Выхадныя напярэдадні прафесійнага свята мы вырашылі прысвяціць здароваму ладу жыцця.

Наша сяброўства пачалося ў мединстытуце. А сумесным вандроўкам ужо болей за 35 гадоў. Маршрут Жодзішкі-Міхалішкі у 47 кіламетраў выбралі як самы маляўнічы і сакральны кавалак Вяллі. На гэтым кавалку ёсць тры рапы (парогі) і некалькі забораў (перакатаў). У час сплаву рабілі пешыя экскурсіі на бераг у Жодзішкаўскі школьны музей, на Белую гару, па прыпынках Маці Божай Курганнай, што ля Дубка, да касцёлаў у Нястанішках і Міхалішках, да прыродных помнікаў.



Плыўсродкі і экскурсійную праграму забяспечыў Алег Мізула. На здымку ён з гітарай.

Фота Ірыны ХОМЧЫК

Плыўсродкі і экскурсійную праграму забяспечыў **Алег Мізула**, гаспадар аграсядзібы "Вялес". Алег, сам краязнаўца, вельмі цікава расказаў пра мястэчкі, вёскі і адметныя хутары на берагах Вяллі. Спеў мноства аўтарскіх песень пра гэты цудоўны край.

Але напачатку, у пятнічны вечар, усіх вандроўнікаў чакала гаспадарская лазня, каб змыць гарадскі пыл і тыднёвую стому.

У вандроўцы прымалі удзел **Ванда Анцілеўская** – доктар-кардыёлаг Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы. Вядомы альпініст, "снежны барс" з Падбярэззя Касцяневіцкага сельсавета, цяперашні загадчык лабараторнага аддзялення НДІ анкалогіі у Бараўлянах, кандыдат медыцынскіх навук **Аляксандр Дуброўскі**, які пачынаў сваю працоўную дзейнасць у санстанцыях Мядзела і Маладзечна, са сваёй жонкай **Мілай**, дзіцячым доктарам-анколагам, і дзецьмі **Яўгенам** і **Іванам**; сямейная пара **Аляксей Чарняўскі** і **Святлана Засмужац**, таксама дактары з НДІ анкалогіі; жонка і муж **Ірына Хомчык** і **Леанід Сташкевіч** (працуюць у 5-й клініцы Мінска). Бацьку Святланы **Анатоля Хомчыка** добра ведаюць у Радашкавічах і санаторыі "Сасновы бор", дзе той працаваў галоўным доктарам. А **Уладзімір Дубовік** з Вілейкі, які даўно сябруе з гэтай кампаніяй, выхаваў сына-медыка – галоўнага санітарнага доктара Валожынскага раёна.

Было хораша і цікава, з назбіраных лісічак і злоўленых Аляксеем Чарняўскім акуней зварылі юшку, якую для смаку засквáрылі дробна пасечаным салам з цыбуляй:

– Смаката! – казаў, налягаючы на юшку, 9-гадовы Іван Дуброўскі.

Дарослыя пагадзіліся – сапраўды смаката.

За выхадныя мы атрымалі вялікі зарад бадзёрасці і станоўчых эмоцый. А пасля купання у вусці Ашмянкі вырашылі, што наступны сплаў на байдарках будзе па Ашмянцы ад Солаў да Міхалішак. Заклікаем усіх да актыўнага ладу жыцця.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст**
**Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

ВЫСТАВЫ

## У мінулае запрашаюць у Ашмянах

**АШМЯНЫ. Выстава "Назад у СССР" адкрылася ў Ашмянскім краязнаўчым музеі.**

Штодзённае жыццё ашмянцаў 60-х, 70-х гадоў мінулага стагоддзя стала асновай экспазіцыі.

Пра выставу "Рэгіянальнай газеце" распавяла дырэктар музея **Настасся Навіцкая**:

– Выстава "Назад у СССР" прысвечаная тым, хто смуткуе па далёкіх часах. Асноўную частку экспазіцыі займае звычайная кватэра 70-х гадоў. Тут і буфет, накрыты накрухмаленай сурвэткай, і канапа, закрытая посцілкай, і знакаміты дыван з аленямі, і цацкі савецкіх гадоў: неваляшкі ды матрошкі, фарфоравыя статуэткі, якія былі ў кожнай сям'і. І той самы чорна-белы тэлевізар, які пераключаўся "пстрыканнем" ручкі-круцёлкі.

Акрамя таго, у экспазіцыі музея можна пазнаёміцца з вакальна-інструментальнымі ансамблямі 60-80-х гадоў. На Ашмяншчыне ў той час было шмат музычных калектываў, вось з іх творчасцю і знаёміць асобны стэнд музея.

Ну і як жа ўявіць савецкі час без школьнай атрыбутыкі тых часоў: без цыратавых партфеляў і школьнай формы з чырвоным гальштукам? А музей Барунскай школы нам для выставы прапанаваў сапраўдную парту тых часоў.

А як уявіць савецкі гандаль без лічыльнікаў? Ашмянскі райспажыўсаюз падзяліўся з намі фотаздымкамі ашмянскіх крамаў тых часоў і шыльдачкай "Зачынена на перападлік".

На вялікім фотастэндзе наведнікі выставы змогуць убачыць, якімі былі Ашмяны паўвека таму назад.

Выстава працуе да канца ліпеня.

**Наталля ТУР.**

КРАЯЗНАЎСТВА

## Афіцэр напісаў кнігу пра Латыгаль

**ВІЛЕЙКА. У чытальнай зале раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік 29 мая адбылася сустрэча з краязнаўцам Аляксандрам Плавінскім.**

Ён прэзентаваў сваю кнігу "Латыгальскі летапіс". Удзельнічалі ў сустрэчы бібліятэкары Вілейшчыны і чытачы.

Аляксандр Плавінскі родам з вёскі Нясцёркі Вілейскага раёна, скончыў Латыгальскую школу. З пачатку 1990-х служыць ва ўнутраных войсках МУС Беларусі. А захапляецца Аляксандр краязнаўствам. Цяга да вывучэння роднага краю перадалася яму ад бацькі Стэфана.

Кніга "Латыгальскі летапіс" мае амаль 200 старонак. У ёй расказана пра гісторыю гэтага краю (у межах прыходу Латыгальскай царквы) цягам шасці стагоддзяў. Шмат увагі аўтар надаў падзеям вайны 1812 года, Вялікай Айчыннай вайны. Багата старонак адвёў на 150-гадовую гісторыю Латыгальскай школы.

– На сустрэчы Аляксандр Плавінскі распавёў пра кнігу і працэс яе напісання, адказаў на пытанні прысутных, – паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Людміла Тонкавіч**. – Сваю кнігу ён падарыў бібліятэцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АДПАЧЫНАК

# Нарач: як пакупацца бяспечна?

**МЯДЗЕЛ. Як у Нарачанскім краі рыхтавалі пляжы да летняга сезона і якая статыстыка па цэркарыёзу? Пра гэта расказвае загадчыца аддзела эпідэміялогіі Мядзельскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Святлана Несцярэнка.**

– Згодна з рашэннем райвыканкама і рэкамендацыямі санітарнай службы, на пляжах правялі рамонт і выбарачную замену малых архітэктурных формаў – лаў, лежакоў, навесаў, арэляў. Убралі дно ў раёне пляжаў ад малюскаў, карэнішчаў, камянёў, водных раслін.

На ўсіх абсталяваных пляжах ёсць душавыя ўстаноўкі і пітныя фантанчыкі.

На пляжах здраўніц маюцца модульныя платформы – так званыя пантоны. Устанавілі стэнды, якія нагадваюць пра прафілактыку цэркарыёзу і забарону карміць вадаплаўных птушак. У санаторы "Жураўка" рэканструявалі прыбярэжную зону.

Зараз штотыдзень праводзіцца маніторынг якасці азёрнай вады ля пляжаў – нестандартных аналізаў не выяўлена.

**– Адпачывальнікаў у апошнія гады непакоіць цэркарыёз. Якая сітуацыя цяпер?**

– Летась са скаргамі на цэркарыёз звярнулася няшмат людзей – толькі 19 чалавек. Можа, таму, што лета было халаднаватае. Раней выпадкаў было больш. Сёлета ў маі і пачатку чэрвеня выпадкі церкарыёзу не фіксаваліся.

**– Нагадайце захады па прафілактыцы цэркарыёзу...**

– Купайцеся на абсталяваных пляжах, пазбягайце берагоў, зарослых воднымі раслінамі. Лепш заходзіць у ваду з модульнай платформы ці мосціка, бо найбольш лічынак-цэркарыяў збіраецца на глыбіні да 70 сантыметраў. Перад купаннем можна змазаць скуру рэпелентам на аснове ДЭТА. Пасля абавязкова трэба абмыцца пад душам. Калі ж яго няма, то насуха абцерціся ручніком.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Архіў "РГ"

**З пачаткам купальнага сезона асаблівую ўвагу надавайце ўласнай бяспецы.**

**Даведка РГ.** Цэркарыёз – захворванне, якое ў асобных людзей пасля купання выклікаюць лічынкі птушыных гельмінтаў – цэркарыяў. У месцах іх пранікнення скура становіцца чырвонай, з'яўляецца пачуццё смылення і свербу, неўзабаве з'яўляецца высыпка і пухіры. Праз некалькі дзён усе гэтыя сімптомы знікаюць.

● СВЯТЫ

## "Камарова – кола дзён" пройдзе 21 чэрвеня

**МЯДЗЕЛ. У вёску Камарова на Мядзельшчыне 21 чэрвеня зноў з'едуцца народныя майстры.**

Тут у дзявяты раз пройдзе выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў "Камарова – кола дзён".

Размесцяцца ўмельцы са сваімі вырабамі на тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу.

Прыедуць майстры з Мядзельшчыны, суседніх раёнаў (Пастаўскага, Астравецкага) і далейшых. Народныя ўмельцы пакажуць майстар-класы па ганчарстве і іншых рамёствах, паведаміла бухгалтар цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Наталля Нагорная.**

Таксама ў праграме свята – канцэртная праграма, пачастункі стравамі нацыянальнай кухні, забавы для дзяцей, дыскатэка, феерверк. Мяркуюць наладзіць катанне на конях.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СТАНДАРТЫ

## Прадпрыемствы правяраюцца па тэхрэгламенце

**Беларусь, Казахстан і Расія стварылі адзіную сістэму тэхнічнага рэгулявання.**

Урадавыя інстанцы гэтых краін перадалі паўнамоцтвы па прыняцці тэхнічных рэгламентаў Камісіі Мытнага саюза. У той жа час камісія кардынуе намаганні трох краін ва ўсёй сферы тэхнічнага рэгулявання.

Усё гэта зроблена, каб прадукцыя па паказчыках якасці адпавядала патрабаванням і без перашкод магла прадавацца на рынках трох краін. Патрабаванні да прадукцыі размешчаныя ў распрацаваных і прынятых тэхнічных рэгламентах Мытнага саюза. Яны абавязковыя для ўсіх удзельнікаў саюза. Тая прадукцыя, што адпавядае гэтым патрабаванням, маркіруецца адзіным знакам "ЕАС".

Аддзел даследаванняў харчовай і сельскагаспадарчай прадукцыі Маладзечанскага цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пашырыў сферу дзейнасці. Прычынай стала павелічэнне патрабаванняў прадпрыемстваў для пацвярджэння бяспекі і якасці прадукцыі.

У 2013 годзе аддзел акрэдытаваны на правядзенне даследаванняў на адпаведнасць наступным тэхрэгламентам: "Аб бяспецы харчовай прадукцыі", "Аб бяспецы збожжа", "Тэхнічны рэгламент на сокавую прадукцыю з фруктаў і гародніны", "Тэхнічны рэгламент на маслатлушчавую прадукцыю".

Сёлета аддзел таксама пачаў акрэдытацыю па тэхрэгламентах: "Аб бяспецы малака і малочнай прадукцыі" і "Аб бяспецы мяса і мясной прадукцыі". Аддзел даследаванняў уключаны ў Адзіны рэестр даследчая лабараторый Мытнага саюза.

Аддзел даследаванняў таксама мае права праводзіць даследаванні і выдачу экспартнага сертыфіката на сельгаспрадукцыю для грыбоў і ягад у адпаведнасці з патрабаваннямі рэгламента савета (ЕС).

Каб не заставацца за бортам і правільна працаваць у новых умовах, прадпрыемствы Маладзечанскага, Вілейскага, Валожынскага і Мядзельскага раёнаў праводзяць даследаванні прадукцыі на адпаведнасць тэхрэгламенту Мытнага саюза. Частку прадукцыі ўжо даследавалі Маладзечанскі і Вілейскі хлебазаводы, Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў, прадпрыемствы "Аграсэрвіс-6", "Міхаэла", "Трайпл-Велес" і іншыя.

Атрымалі сертыфікаты аб адпаведнасці прадукцыі тэхрэгламенту таварыствы "Механічны завод", "Энэф", "ТРЫЭМ". Афармілі і зарэгістравалі 32 дэкларацыі фабрыка "Бярозка", Маладзечанскі камбінат бытавога абслугоўвання, "Онітэкс", Маладзечанскі малочны камбінат і іншыя.

Толькі безумоўнае выкананне патрабаванняў тэхрэгламенту Мытнага саюза пасля заканчэння пераходнага перыяду дазволіць прадпрыемствам вырабляць і рэалізоўваць прадукцыю.

**Тацццяна КАЗАКЕВІЧ,**
**начальнік аддзела даследаванняў харчовай і сельскагаспадарчай прадукцыі Маладзечанскага цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.**

| Курсы валют НБ РБ | 5.05 руб. | 12.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 110,00 | **10 140,00** |
| Еўра | 13 760,00 | **13 730,00** |
| Злоты | 3 312,42 | **3 332,24** |
| Літ | 3 985,18 | **3 972,34** |
| Расійскі рубель | 287,50 | **295,50** |
| Грыўня | 846,03 | **871,88** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13750/13830 | **13710/13800** |
| Долар ЗША | 10100/10150 | **10110/10155** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.06 | 11.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 116900 | **118900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 55200 | **63600** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 31500 | **31900** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 95000 | **100000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 31500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 105000 | **87000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10500 | **10000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **10000** |
| **Алей "Масловія"** | 13000 | **13000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5300 | **5300** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 8000 | **8000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 12000 | **10000** |
| **Капуста**, 1 кг | 11000 | **9000** |
| **Морква**, 1 кг | 9000 | **9500** |
| **Буракі**, 1 кг | 16000 | **15000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23500 | **22500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 17000 | **17900** |
| **Агуркі**, 1 кг | 14000 | **12000** |
| **Перац**, 1 кг | 36500 | **37900** |
| **Вінаград**, 1 кг | 24900 | **22500** |
| **Бананы**, 1 кг | 15800 | **15500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 11500 | **10900** |
| **Грушы**, 1 кг (Дюшэс) | 19500 | **23900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 17000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 85000 | **100000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Бацька гвалтаваў 13-гадовую дачку

**МАЛАДЗЕЧНА. 37-гадовага мужчыну судзілі па трох артыкулах.**

Летась у верасні маладзечанец у стане ап'янення з прымяненнем фізічнага і псіхічнага ўздзеяння некалькі разоў згвалтаваў сваю 13-гадовую дачку. Рабіў і іншыя дзеянні сэксуальнага характару. Усё адбывалася ў сваім пакоі інтэрната. Гэта бачыла праз акно і маці дзяўчынкі. Яна хвалявалася ў той дзень за дачку і прыбегла з працы, стукала ў дзверы, але ніхто не адчыніў.

Жанчына падала заяву ў міліцыю. Бацьку прызналі свядомым.

Яго судзілі па трох артыкулах: згвалтаванне заведама малалетняй, іншыя дзеянні сэксуальнага характару з заведама малалетняй супраць волі пацярпелай і кіраванне транспартам у алкагольным стане паўторна.

Суд Маладзечанскага раёна прызначыў пакаранне: пазбаўленне свабоды на 13 год у выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспарту.

Таксама асуджанага абавязалі прымусова лячыцца ад хранічнага алкагалізму.

Абвінавачаны абскардзіў прыгавор, але суд Мінскай вобласці пакінуў пакаранне без змяненняў.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**



Фота rusnews24.ru

**Летась маладзечанец у стане ап'янення некалькі разоў гвалтаваў сваю 13-гадовую дачку.**

ЗДАРЭННІ

## Загінулі на вадзе

**МЯДЗЕЛ.** Каля пяці гадзін вечара 5 чэрвеня мядзельскім выратавальнікам паведамілі пра тое, што на возеры Кузьмічы перакулілася лодка. Адбылося гэта каля вёскі Плецяшы.

Як аказалася, трое мужчын адправіліся на рыбалку. На адлегласці 200 метраў ад берага металічная лодка "Казанка" перакулілася.

Адзін з рыбакоў выплыў на бераг. Знаёмых на паверхні вадаёма ён не ўбачыў, пра што і паведаміў выратавальнікам.

Супрацоўнікі МНС на лодцы абследавалі акваторыю возера, людзей не знайшлі.

Пазней высветлілася, што яшчэ адзін з рыбакоў самастойна дабраўся да берага. У шпіталізацыі патрэбы не меў.

Увечары вадалазы таварыства выратавання на водах знайшлі цела 45-гадовага мужчыны. Адшукалі яго на адлегласці 100 метраў ад берага, на глыбіні два з палovай метры.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Наступнае здарэнне адбылося 6 чэрвеня на вадаёме, што знаходзіцца паблізу вёскі Крыніца.

У 22.30 у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне аб тым, што ў вадаёме ўтапіўся мужчына.

Да месца здарэння была накіраваная вадалазная служба. Пасля прыбыцця да месца выкліку выратавальнікі на паверхні возера на адлегласці 25 метраў ад берагу ўбачылі цела тапельца.

Са слоў відавочцаў, 51-гадовы мужчына адпачываў у кампаніі на беразе возера. Знаходзячыся ў нецвярозым стане, каля 22.00 вырашыў пакупацца ў вадаёме. У 22.20 на паверхні вадаёма сваякі убачылі яго цела.

**Аддзел інфармацыі.**

## Калі адабралі нож, нападнік збег

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзён утварыў панажоўшчыну ў цэнтры горада. За гэта атрымаў тры гады і пяць мільёнаў штрафу.**

Здарэнне адбылося летась у ліпені. Л. са сваёй дзяўчынай сядзелі ў скверы. Яны сварыліся, нецэнзурна лаяліся. Непадалёк сядзела кампанія маладзёнаў. Адзін з іх падышоў да Л. і спытаўся, чаму ён чапляецца да дзяўчыны. Той з лаянкай адказаў, што іншых іх справа не павінна хваляваць.

Тады той, хто падышоў, ударыў Л. нажом па твары, парэзаўшы нос. Пацярпелы пачаў прасіць выклікаць міліцыю. Але праціўнік зноў размахваў нажом, таму Л. ударыў маладзёна па галаве.

Падышоў яшчэ адзін чалавек, які папрасіў схаваць нож. Але нападаючы працягваў махаць нажом і крычаў, што парэжа.

Мужчыны павалілі нападніка на зямлю і адабралі нож. Без зброі маладзён збег.

Суд прызнаў нападаючага з нажом вінаватым у асабліва злосным хуліганстве і пагрозе гвалтам асобе, якая спыняе правапарушэнне. Па сукупнасці злачынстваў суд прызначыў пакаранне: пазбаўленне свабоды на тры гады з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Асуджаны мусіць таксама выплаціць пяць мільёнаў рублёў маральнай шкоды для Л.

Асуджаны абскардзіў прыгавор, але суд Мінскай вобласці пакінуў пакаранне без змяненняў.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Затрымалі падлеткаў

**МЯДЗЕЛ.** Васьмярых падлеткаў, якія 1 чэрвеня самавольна пакінулі Крывіцкае спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча №3 закрытага тыпу ў Мядзельскім раёне, затрымалі ў Расіі.

Вось што паведамілі ў прэс-службе Упраўлення МУС Расіі па Смаленскай вобласці:

"Паліцэйскі заўважыў трох падлеткаў, якія курылі на тэрыторыі дыспансера. Ахоўнік парадку спыніўся, каб зрабіць юным курцам заўвагу. Хлопцы патлумачылі, што самі яны не мясцовыя, едуць з Беларусі ў Маскву на любым спадарожным транспарце, дакументаў, якія сведчаць асобу, у іх няма".

Паліцэйскі даставіў хлопцаў у дзяжурную часць. Тут і высветлілі, што падлеткі некалькі дзён таму збеглі са спецвучылішча ў Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННЕ

## Збітую дзяўчыну заўважыў толькі на капоце

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося ў панядзелак а восьмай гадзіне раніцы на вуліцы Чапаева. У выніку ДТЗ пацярпела 19-гадовая жыхарка вёскі Студзянец Валожынскага раёна.**

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" распавёў следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Сяргей Лапцік**:

– Дзяўчына, навучэнка маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа, раніцай у панядзелак ішла ў Валожыне на хлебазавод, дзе яна праходзіць практыку. Праз два тыдні ў пацярпелай павінны быць дзяржаўныя іспыты.

На вуліцы Чапаева, на абсалютна роўнай дарозе, дзе няма ніводнага небяспечнага павароту, яе збіў 65-гадовы кіроўца, які рухаўся на сваёй уласнай легкавой машыне.

Як потым прызнаўся вінаваты ў аварыі, ён дзяўчыну заўважыў толькі ў сябе на капоце. Па папярэдняй інфармацыі, кіроўца быў цвярозы.

Цяпер дзяўчына знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні маладзечанскай бальніцы з вельмі цяжкай траўмай галавы, пераломам ключыцы і рэбраў. Такія абставіны даюць права ўзбуджаць супраць кіроўцы аўтамабіля крымінальную справу.

**Наталля ТУР.**

## У жыхара Дзікшнянаў скралі двух коней

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ноччу, 6 чэрвеня, з падворка жыхара вёскі Дзікшняны невядомыя скралі двух коней.

– Гаспадар пакінуў коней на ноч у сваім садзе. Калі раніцай пайшоў паглядзець, іх не было, затое ланцугі, якімі прывязвалі коней, ляжалі акуратна складзеныя тут жа, у садзе, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

Агульны кошт коней (аднаму сем гадоў, другому два) ацэньваецца на суму 30 мільёнаў рублёў.

Пакуль вядомы толькі напрамак, у якім вывадзілі коней з сада. Асоба злачынцы невядомая. Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

**Наталля ТУР.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Пасееш мак ці каноплі – адкажаш па законе

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 1 чэрвеня на тэрыторыі Маладзечанскага раёна ўведзеная спецыяльная праграма "Мак".**

У межах яе праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на знішчэнне пасеваў маку і канапель з прыцягненнем вінаватых асоб да адказнасці.

Асноўным відам наркатычных сродкаў на тэрыторыі Маладзечна і раёна з'яўляюцца каноплі і мак (відук, самасейка). За незаконны пасеў, вырошчванне маку і канапель без мэты збыту прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць, згодна з артыкулам 16.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях РБ.

Такія парушэнні караюцца штрафам у памеры да дваццаці базавых велічынь.

Згодна з артыкулам 329 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Пасеў або вырошчванне маку і канапель з мэтай збыту або вырабу наркатычных сродкаў", крымінальная адказнасць накладаецца ў выглядзе пазбаўлення волі да трох гадоў.

Сам продаж, збыт гэтых відаў наркатычных сродкаў з'яўляецца цяжкім злачынствам і прадугледжвае крымінальную адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам ад пяці да васьмі гадоў.

Каб пазбегнуць непрыемнасцяў, просьба не сеяць на сваіх прысядзібных участках, гародах мак і каноплі, а калі яны выраслі самі, трэба іх знішчыць разам з іншым пустазеллем. Бо толькі агульнымі намаганнямі мы зможам супрацьстаяць такому няўхільнаму злу, як наркаманія, якая з'яўляецца цяжкай хранічнай хваробай.

Калі вам што-небудзь вядома пра факты збыту, захоўвання, вырабу, вырошчвання наркатычных сродкаў, тэлефануйце ў аддзяленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС па тэлефоне **8-0176-77-19-11** або па мабільным тэлефоне **8-029-773-39-15, 8-044-786-31-35.** Ананімнасць гарантуецца.

**Дзмітры СУХОЦКІ, начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС.**



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Трапіў у аварыю на матацыкле, які нават не паспеў аформіць на сябе

**АСТРАВЕЦ.** Здарэнне адбылося ў пятніцу, 6 чэрвеня.

Юнак, які працуе ў Астраўцы вахтавым метадам, вяртаўся з Нарачы ад дзяўчыны.

Абагнаўшы грузапасажырскі УАЗ, у вёсцы Сідорышкі, на нязначным закругленні дарогі ўлева, няправільна выбраў дыстанцыю да аўтамабіля БМВ, які рухаўся ў спадарожным накірунку. Вадзіцель БМВ перад уездам у населены пункт затармазіў. Каб не сутыкнуцца з ім, матацыкліст на "Сузукі" прыняў правей. У кювеце ўрэзаўся ў вадасцёкавую трубу і перакуліўся. Правы кіравання транспартнымі сродкамі катэгорыі "А" атрымаў прыкладна месяц таму, купіў матацыкл у сябра і не паспеў яго пераафармішь.

З пераломам, драпінамі, сінякамі хлопец быў шпіталізаваны, – паведамляе сайт Гродзенскай Дзяржаўтаінспекцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Адзінокі рыцар жадае пазнаёміцца

**МАЛАДЗЕЧНА. У маладзечанца Аляксандра Шоцяа незвычайнае захапленне. Ён вырабляе рыцарскае адзенне, кальчугі, рыцарскую зброю. І робіць гэта не па гатовых эскізах, а з уласнай фантазіі.**

У планах паказаць гэту выставу шырокаму колу людзей. А пакуль Аляксандр шукае паплечнікаў, каб разам стварыць у Маладзечне рыцарскі клуб.

**– Аляксандр, адкуль у вас такое захапленне?**

– З дзяцінства захапляюся гісторыяй. Памятаю, калі мне было 15 гадоў, пазнаёміўся з дзедам, які жыў побач. Яго звалі Канчуром і яму тады было 106 гадоў. Ён так цікава расказваў пра даўніну, пра тое, якія бітвы адбываліся тут, на Беларусі. Пасля гэтага знаёмства цікавасць да гісторыі так і не прайшла. Нядаўна паказаў ужо сваім дзецям тых рыцараў ВКЛ, якіх, калі быў дзіцем, зрабіў з паперы. Сказаць, што дзеці здзівіліся, нічога не сказаць.

**– Над чым працуеце цяпер?**

– Я над нейкімі рэчамі працую ўвесь час. Мяне вельмі захапляе рыцарская зброя. Раблю яе. Вядома, што не сапраўдную, а вельмі падобную да яе. Калі гэта мячы ці дзіды, то яны ні ў якім выпадку не заточаныя, калі арбалеты, то без стрэл. Паралельна з гэтым раблю кальчугу. Чорную з залатымі элементамі.

**– А не спрабавалі зрабіць такую кальчугу, якая была, скажам, у Вітаўта ці Чынгісхана?**

– Так, гэта цікава. Але бачыце, у чым справа, іх кальчугі ўжо нехта раней зрабіў, мне ж цікава рабіць рэчы, якім ва ўсім свеце няма аналага.

## Рыцарскі шлем – гэта былы чайнік

**– Вельмі цяжка рабіць такія рэчы?**

– Ды не. Усе гэтыя рэчы робяцца проста і з падручных матэрыялаў. Я, бывае, знаходжу дроцік ці кавалак скуры і захоўваю, бо ведаю, што яны мне некалі спатрэбяцца. Вось нядаўна знайшоў на лецішчы старыя савецкі электрычны чайнік. І я падумаў, што калі яго распілаваць папалам, дадаць элементаў, атрымаецца цудоўны рыцарскі шлем. Іншая справа, што гэта вельмі доўгая па часе работа. Кожнае кальца, кожнае звяно да кальчугі мацуецца асобна.

**– Колькі каштуе такая кальчуга, калі яе ў вас набыць?**

– Ад 1 тысячы 500 долараў, але ж я свае вырабы не прадаю. Нашто? Грошы ў мяне і так ёсць, я спадзяюся, што калі-небудзь зладжу сваю выставу. У мяне ёсць мара адвезці свае вырабы ў Радашкавіцкую школу-інтэрнат. Раскасаць дзецям пра рыцараў, даць памераць кожнаму дзіцяці кальчугу і шлемы. А прадаваць?.. Вось у мяне аднойчы знаёмы хацеў купіць шчыт і меч. Я ў яго спытаўся: “А што ты будзеш з імі рабіць?” Ён адказаў: “Павешу дома на сцяну”. “Э, не, – адказваю я, – зброя такая павінна працаваць, а не пакрывацца пылам. Ёй у турнірах яшчэ ўдзельнічаць і ўдзельнічаць”.

**– У якіх турнірах удзельнічала ваша зброя?**

– Ну, мяркуйце самі, я ж не магу біцца сам з сабой. А нікога, каго б цікавіла гэта, я не ведаю. Здаецца, што ў нас у раёне няма ніводнага рыцарскага клуба. Таму я і заклікаю ўсіх рыцараў рэгіёна яднацца. Мы калісьці пачыналі гэту справу разам з малодшым братам, але некалькі гадоў таму яму нейкі дурань камп’ютарную гульню ў “танчыкі” паказаў.

**– Адзенне са скуры, якое вы вырабляеце, таксама толькі для сябе?**

– Не, я зрабіў падарунак нашаму маладзечанскаму дудару Сяргею Яруку, спецыяльна для яго зрабіў скураныя боты. І, калі так можна сказаць, яго імідж – гэта мая прыдумка. Я яму сказаў: “Сяргей, цябе людзі павінны не толькі слухаць, але і глядзець на цябе, як на чараўніка з мінуўшчыны”. Ён потым мне прызнаўся, што калі быў на фестывалі ў Маскве, то і журналісты, і гледачы яго дуду фатаграфавалі пасля маіх ботаў. Усіх так яны ўразілі!

## Беларусы, насіце спадніцы

– А для сябе я пашыў адну рэч, якая мне вельмі падабаецца. Аднойчы на адным з фестываляў я заўважыў чалавека ў шатландскім адзенні, у кілце. Я тады падумаў: няўжо мужчыну зручна хадзіць у спадніцы, але тканіну на кілт усё ж такі набыў. Прыехаў дадому, паглядзеў выкрайку ў інтэрнэце, пашыў. І ведаеце што? Гэта так зручна, цёпленька, нічога не перашкаджае. Вельмі раю ўсім.

**– А куды вы яго носіце?**

– За каго вы мяне прымаеце? Не нашу, але ў шафе ляжыць, чакае свайго часу.

**– Ці кіруецеся вы ў жыцці кодэксам гонару рыцараў?**

– Які кодэкс гонару? Гэта ўсё кніжныя прыдумкі. У рыцара толькі адзін кодэкс – вайна. А калі гаварыць пра жыццёвыя прынцыпы, ён у мяне адзін: жыць так, каб не было сорамна.

Прывяду адзін прыклад. Я працаваў у адной вядомай мастачкі. Мы з ёй дамовіліся на пэўную суму. А калі надышоў час разлічвацца, я не далічыўся каля 150 долараў. Я не крычаў, не даказваў сваю праваті. Я толькі спытаўся: “Гэта ўсё”? Яна сказала “Так”. А потым, калі гэта мастачка сустракае мяне ў горадзе, адводзіць вочы, робіць выгляд, што яна мяне не ведае. А кошт гэтага сораму на ўсё жыццё – 150 долараў.

Я не разумею таго, што некаторыя людзі паводзяць сябе так, быццам ім жыць яшчэ 200 гадоў. Першыя 100 грашыць, потым астатнія 100 замольваць грахі. Ці не прасцей адразу жыць праўдзіва і па-чалавечы?



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com



Фота забяспечана Аляксандрам ШОЦЕМ.

**Кожная кальчуга Аляксандра Шоця (на здымку) унікальная. Нараджаюцца яны толькі з уласных фантазій. Больш фота глядзіце на сайце** Rh.by



Фота забяспечана Вольгай ЯКАЎЛЕВАЙ.

Удзельнікі ансамбля “Фарсаж” з узнагародамі міжнароднага конкурсу мастацтваў “Avanti”.

● ТАНЦЫ

# “Фарсаж” па-вілейску

## У ансамблі вучаць не толькі танцаваць, але і сябраваць

**ВІЛЕЙКА. Паўнюткая зала на справаздачным канцэрце, кубкі з прэстыжных конкурсаў – усяго гэтага за два гады ўдалася дасягнуць ансамблю танца “Фарсаж” гімназіі 1 “Логас”.**

Пра тое, як зацікавіць дзяцей танцамі, чаму на занятках пацеюць шыбы, раскажа кіраўнік ансамбля харэограф гімназіі **Алеся Раздзялоўская**.

### Дзяцей зацікавіла хіп-хопам

**– Як усё пачыналася?**

– Раней у гімназіі быў ансамбль, займаліся танцамі, праўда, больш класічнымі, народнымі. Два гады таму прыйшла сюды працаваць. І каб зацікавіць дзяцей, сталі танцаваць адразу хіп-хоп, бо гэта падабалася. У першыя дні вельмі шмат ахвотных прыйшло. Аднак першы месяц не ўсе вытрымалі, бо усё ж вялікія фізічныя нагрузкі. Засталіся самыя стойкія.

Так вось і стварыўся наш калектыў. Назву новую прыдумалі – “Фарсаж”, бо ў асноўным сучасныя танцы ў нас. Але розныя накірункі развіваем. І парныя танцы – гэта ж так прыгожа! І народныя – не такія спакойныя танцуем, а вясёлыя, з гумарам.

**– Дзеці якога ўзросту займаюцца ў калектыве?**

– Вучні ад другога да адзінаццатага класаў. Усяго каля ста дзяцей. Здзівілі малыя з другога-трэцяга класаў. Думала, што ў іх не атрымаецца. Аказалася, некаторыя рухі ім лепш чым большым удаюцца.

Падчас навучальнага года займаемся тры разы на тыдзень.

З дзецьмі працаваць лёгка, бо прыходзяць тыя, хто хоча танцаваць. Нікога не прымушаю: займаюцца яны на факультатывах. Мы супрацоўнічаем, каб усім падабалася. Інакш лепш не займацца. Але калі танцы прыйшліся па душы, то ўжо выкладваемся па поўнай.

**– Як удаецца зацікавіць дзяцей, каб не сыходзілі?**

– Увесь час штосьці новае і цікавае ім прапаноўваеш: танцы, рухі. Гэта і цікава дзецям. Прыходзяць на ўрок і без справы не сядзяць, сыходзяць стомленымі.

**– Казалі, што такія нагрузкі на занятках, што бывае аж шыбы пацеюць...**

– Так і ёсць. Нагрузкі сур’ёзныя. Затое дзеці развіваюцца.

**– Як вы лічыце, што даюць гэтыя танцы дзецям?**

– Па-першае, яны дапамагаюць развівацца – не толькі фізічна. Гэта і ўменне сябе паводзіць. Дзеці вучацца кантраляваць сябе, не баяцца сцэны. І сябраваць.

**У першую чаргу стараюся іх вучыць сяброўству. Кажу ім: “Вы – адзін калектыў. Калі хто адзін зробіць няправільна, штурхне, не прапусціць, то не скажуць, што гэта Коля ці Маша няправільна зрабілі, а што калектыў дрэнна выступіў”.**

**– Якіх поспехаў дасягнуў ансамбль ?**

– За красавік прывезлі ў гімназію пяць кубкаў. На фестывалі “Хрустальная ліра” вазілі два танцы – вярнуліся з першым і трэцім месцамі.

Потым тры групы ансамбля прымалі ўдзел у другім міжнародным конкурсе мастацтваў “Avanti” ў Мінску. Адтуль прывезлі два дыпломы лаўрэата другой ступені і адзін – трэцяй ступені. І кубкі з імі.

Дзеці, якія займаюцца танцамі, у складзе агітбрыгады на рэспубліканскі конкурс патрапілі.

Яшчэ развіваем чырлідынг. Дзяўчаты выйгралі конкурс у раёне, потым занальны, ездзілі ў Барысаў на абласны конкурс. Супрацоўнічаем са СДЮШАР Вілейскага райвыканкама, там дапамагаюць з акрабатыкай.

**– А на спартыўных спаборніцтвах чырлідары ці выступалі?**

– Так. Пакуль што, на школьных.

**– Самыя яркія вашы ўражанні за час працы з ансамблем?**

– Менавіта гэтыя перамогі на конкурсах. На “Avanti” журы было з розных краін. І калі пачалі аб’яўляць пра заваяваныя нашым ансамблем месцы, то было вельмі нечакана і прыемна.

Радуе, што бацькі зацікаўленыя: на справаздачным канцэрце была поўная зала, не толькі мамы і таты, але і бабулі, дзядулі папрыходзілі. Бацькі дапамагаюць, бо цяпер мала бясплатных конкурсаў.

**– Чаго хочацца з ансамблем дасягнуць?**

– Планы вялікія. Хочацца паспрабаваць дасягнуць звання “ўзорны”. Калі ўдасца, то ў дзяцей будзе большая цікавасць, і канцэртаў, паездак больш будзе. Словам, безліч планаў на наступны навучальны год. Прыходзім – і адразу пачынаем увасабляць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**P.S.**

Кажа намеснік дырэктара гімназіі па культурна-эстэтычным цыкле **Вольга Якаўлева:**

– Алеся – вельмі захоплены педагог. Энергічная, маладая, так шмат часу дзецям удзяляе. Яна прынесла ў нашу гімназію новы накірунак – сучасныя танцы. Вядома, дзецям гэта вельмі падабаецца.

● НАРОДНЫЯ СВЯТЫ

# На Сёмуху дэманстравалі абрады і ўручалі падарункі

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Ерхі 8 чэрвеня прайшло раённае свята “Траецкія прыгоды – песні, танцы, карагоды”.**

Перад гледачамі разгарнулася сапраўдная тэатральная дзея: да гаспадароў, у імправізаваную “хату”, прыйшло цэлае дзявочае “войска”, а ў цэнтры шэсця была Дзяўчына-куст, якую вадзілі па хатах і адорвалі.

Дзяўчаты выконвалі траецкія абрадавыя песні. Ля бярозак прадэманстравалі фрагмент абраду “Кумленне бярозкі”.

У канцэртным блоку перавагу аддалі народным песням, танцам і, вядома ж, бліскучаму народнаму гумару. Склалі яго нумары лепшых калектываў аматарскай мастацкай творчасці Вілейшчыны. Дэманстравалі выставу дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, салодкую выпечку.

Для гледачоў і гасцей свята разгарнулі гандлёвыя рады. Для маленькіх вяскоўцаў працавала дзіцячая гульнявая пляцоўка з атракцыёнамі.

На свяце падвялі вынікі конкурсу на лепшы падворак сярод жыхароў вёскі. Пераможцамі сталі сем’і **Кайданік** і **Пушніцкіх**, а таксама адзначылі Ерхаўскі дзіцячы сад за якасна праведзеную работу па добраўпарадкаванні.

Ушанавалі самага старэйшага і самага маладога жыхароў вёскі – **Марыю Чайкоўскую** (92 гады) і **Уладзіслава Юркевіча** (адзін месяц). Старшыня Крывасельскага сельскага Савета **Ірына Супрановіч** павіншавала пераможцаў і ганаровых жыхароў вёскі, уручыла ім памятныя падарункі і дыпломы.

Не забыліся ўшанаваць ветэрана Вялікай Айчыннай вайны – **Іпаліта Хаванскага**.

Фіналам свята стала традыцыйнае падвядзенне вынікаў раённага агляду-конкурсу аматарскай мастацкай творчасці “Святы. Звычаі. Абрады... Запрашаем – будзем рады”! Пераможцамі ў розных намінацыях сталі: Любанскі Цэнтр культуры і вольнага часу, Нарачанскі сельскі Дом культуры і Селішчанскі сельскі клуб, Ільянскі і Людвіноўскі СДК. Урučыў Ганаровыя дыпломы і прызы начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Сяргей Паўлоўскі**.

**Андрэй БАЎТРУКЕВІЧ,**
**метадыст раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы.**



Фота забяспечана Наталляй ВЯРЭНІЧ.

Спяваюць артысты з Куранецкага сельскага Дома культуры.

• Паслугі міні-экскаватара. Вада, газ, падмурак, каналізацыя. ІП Сурынт Е.Ю. УНП 691508985. Т. (8-025) 5250098.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра, 41,7 кв.м, цана дагаворная, торг дарэчы. Т. (8-01771) 33805, (8-029) 8489022.

• 2-павярховая дача ў Лазаўцы, 12 км ад горада, 2 вялікія пакоі, кухня, печ, кладоўка, хлеў, 4,9 соткі. Т. (8-029) 2618522, (8-029) 8563845.*

• 2-пакаёвая кватэра ў 1-павярховым доме, ёсць 2 хлявы, участак пад агарод, вада ў доме, падведзеная каналізацыя. Т. (8-044) 4913718.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Паркавая, 3/4 паверх, 54/30/10, санвузел асобны, ёсць цагляная прыбудова са склепам 8 кв.м. Пад вокнамі градкі. Т. (8-029) 7702055.*

• 2-пакаёвая кватэра ў пас.Беразінскае. Т. МТС (8-029) 8748175.

• 2-пакаёвая кватэра ў Шылавічах, Вілейскі раён, агульная плошча 55,7, торг магчымы. Т. МТС (8-029) 8537200.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Мядзеле, 4/5, 1997 г/б, шклопакеты, уваходныя дзверы металічная, побач магазін, стадыён, фок, 350 м пляж. Т. (8-029) 1958826.

• 3-пакаёвая кватэра па вул Я.Купалы (67-5/40/9) і гараж насупраць дома, за ўсё 70000 у.а. Т. (8-029) 6731495.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 60/38, зашклёная лоджыя, 5 кв.м. Т. (8-033) 6677881, (8-033) 6682722.

• 3-пакаёвая кватэра ў Гальшанах, 2/3 паверх, 70 кв.м. Т. (8-044) 7799653.

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, м-н Усходні, 68 кв.м, палепшаная планіроўка, лоджыя, балкон, 2 падвалы, добрае размяшчэнне дома. Т. ( 8-029) 3097896, (8-033) 6783121, (8-01592) 52690.

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 3-і паверх, 1993 год пабудовы, 6 мкрн. Т. (8-044) 7012168.*

• Вагончык-бытоўка, уцепленая, 4000x2500. Т. МТС (8-029) 5752805.

• Гараж у ГБК-2, 2000 у.а. Т. (8-029) 5807152.*

• Гараж у ГК-1, з добрым падвалам, тэрмінова, Вілейка. Т. (8-029) 3599238.

• Дача ў Лазаўцы. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Дом (3-пакёвая кватэра) у в.Ілья, Вілейскі р-н, 69,4 кв.м, 10 сотак, цагляны, 65 км ад Мінска, аграгарадок, побач лес, рака, 10 км ад Вілейскага вадасховішча, ацяпленне паравое. Т. (8-029) 7430266.

• Дом у в.Вайдзені, у выглядзе хутара, побач лес, рака, ад Вілейкі 13 км; дуброўку (лапчатку) белую. Т. 1471430.*

• Дом у в.Дубровічы, Людвіноўскі с/с. Т. (8-029) 7061616.

• Дом у в.Івонцавічы, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 3137628.*

• Дом у в.Куранец. Т. (8-029) 2626606.*

• Дом у в.Любань. Т. у Вілейцы 54251, МТС (8-029) 2739855.*

• Дом у в.Селівонаўка, 25 сотак, газ, вада, тэлефон. Т. (8-029) 1033779.

• Дом у в.Сівіца, Смаргонскі р-н. Т. (8-029) 9168158.*

• Дом у в.Схоліна, 20 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 7600937, (8-0176) 727358.*

• Дом у в.Цынцавічы, 10 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8543893.

• Дом у Вілейскім р-не. Т. МТС (8-029) 2703154.

• Дом у Вілейцы, побач вадасховішча. Т. (8-029) 5649638.*

• Дом у Вілейцы, р-н Шанхай, вул.Заслонава, 20, 18500 у.а., торг. Т. (8-033) 6312465.

• Дом у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7528142, (8-029) 7302701.*

• Дом у Каловічах, 5 км ад Вілейкі, 15 сотак, 3100 у.а., без торгу. Т. у Вілейцы 23447, МТС (8-033) 3876837.*

• Дом у Маладзечне недабудаваны, 3 узроўні, сцены драўляныя, дах – шыфер, плошча забудовы 10x13,5, унутраная плошча будынка 265/179/15, плошча ўчастка 15 сотак, гараж, сад, гаспадарчыя пабудовы, плот, побач лес і рэчка. Магчымы абмен на 2-пакаёвую кватэру. Т, (8-029) 5605781, (8-029) 5634971.*

• Дом у Сасновым Бары, Маладзечанскі р-н, 1,5 км ад Маладзечна. 106 кв.м, блокава-цагляны, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне. Каля дома аўтобусны прыпынак, зямельны участак 0,15 га. Ёсць сад, гаспабудовы, пластыкавыя вокны. Т. (8-0176) 707539, Вэлком (8-029) 1732246.*

• Дом цагляны ў Маладзечне, 1 паверх, 120 кв.м, гараж з ямай, 2 хлявы, летняя кухня, лазня, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне, выгоды ў доме, участак 15 сотак, магчымы абмен, разгледжу любыя варыянты. Т. (8-029) 3535964.*

• Дом у в.Гародзькі Валожынскага р-на, чыгуначная станцыя Валожын, 03 га, гаспабудовы, побач ФАП, пошта, школа-сад, крамы, рака, лес, вадасховішча, 14000 у.а. Т. (8-01772) 58946, (8-029) 3630844.

• Участак са старым домам, 0,25 га, нядорага, тэрмінова. Т. (8-029) 2538118.*

## КУПЛЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. (8-029) 7036542.

• Кватэру ў р-не ці ў горадзе, нядорага. Т. (8-029) 8589498.*

• Хутар, дом. Т. (8-029) 8589498.*

## МЯНЯЮ

• 1-пакаёвую кватэру на дом у Вілейцы. Т. (8-033) 6064505, Вольга.

• Дом у цэнтры Вілейкі на 2-пакаёвую кватэру з вашай даплатай ці прадам. Т. (8-029) 8576731.

## ЗДАМ



• Кватэра на суткі, камандзіраваным і студэнтам – скідкі. УНП Шчэрбачэвіч Т.І. УНП 691507948. Т. (8-044) 4892548.*

• Фермер здасць у арэнду ўласную нерухомасць пад склад ці вытворчасць ад 30 да 2500 кв.м. 1,5 км ад горада Маладзечна (прам. зона). Кошт ад 1 у.а. за кв.м. Ахова, тэлефон, добрыя пад'езды. Т. (8-029) 6556752, (8-0176) 745361, Павел Віктаравіч.*

## НАЙМУ

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы для маладой сям'і без дзяцей, тэрмінова. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-029) 1944852.*

• 1-пакаёвую кватэру для дзяўчыны на працяглы тэрмін, можна маласямейку. Т. МТС (8-033) 6733456, Вэлком (8-029) 9656335, Марына.*

• 2-3-4-пакаёвую кватэру ці дом. Аплата і парадак гарантаваныя. Т. Вэлком (8-029) 6554389, МТС (8-029) 7919293.*

• 2-3-пакаёвую кватэру для сям'і на працяглы тэрмін (р-н «Зеніт», Вілейка), можна без мэблі. Т. (8-029) 8639359.*

• 2-3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, цэнтр. Т. (8-029) 1993242.

• Кватэру на працяглы тэрмін для маладой сям'і з двух чалавек. Чысціню і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-029) 5033299.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"АЛЯКСАНДРА" –** вясельныя, вячэрнія, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГЦ "Спадарожнік", вул.В.Гасцінец, 67. ІП Ліпніцкая А.Г. УНП 691397956. Т. (8-044) 7567877, (8-029) 9509215.*

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-і паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• **"НАДЗЕЯ" –** вясельныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №65. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-044) 5502031.*

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы, індывідуальны сцэнар, прафесійны падыход. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

• Тамада-баяніст, дыскатэка на вяселле, юбілей. Сайт: www.toastmaster1.narod2.ru УНП АА 9523648. Т. МТС (8-029) 5510526.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Ажыццяўляем пасажырскія перавозкі камфартабельным мікрааўтобусам MB да 18 месцаў. Абслугоўванне любых мерапрыемстваў. ПСГУП "БАНАТ". УНП 690609538. Т. (8-029) 6777092.*

• ФВ LT-28, 14 месцаў, дастаўка рабочых на аб'ект, наяўны і безнаяўны разлік, РБ, РФ. ІП Фяськоў С.В. УНП 691509315. Т. (8-044) 5673094.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. Т. (8-029) 2713567.*

• Фургон, 2,5 т, 4 м. ІП Жаўняровіч В.П. УНП 691176225. Т. (8-029) 8771967.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **КАМП'ЮТАРНЫ СЭРВІС. ШЫРОКІ СПЕКТР ПАСЛУГ. ГАРАНТЫЯ НА РАБОТУ. HELPER PC.BY. ТАА "БраГруп". УНП 691518839. Т. (8-029) 5538274, (8-044) 5538278.***

• Абітурыент! Выканаю курсавыя, кантрольныя, рэфераты. ІП Герасімчык. УНП 691517659. Т. (8-044) 5522205.*

• **АБІТУРЫЕНТ!** Матэматыка: Падрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звяна. Якасць падрыхтоўкі высокая. ІП Каляснікаў В.Ф. УНП 690418425. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Вырабім гаражныя вароты, уязныя двухстворкавыя, платы, агароджы, казыркі і іншыя металавырабы, танна. ІП Каханоўскі В.А. УНП 691502073. Т. (8-029) 8716226, (8-029) 9355568.*

• Вырабляем пенапласт 15-20-25-30 мм. ІП Панічаў А.М. УНП 591802484. Т. (8-01592) 61135, (8-029) 9345433, (8-01592) 76141, (8-029) 9971357.*

• Вырабы з металу: летні душ, брылі, агароджы і г.д., а таксама аўтакузаўныя работы. ІП Герасімаў В.А. УНП 691511344. Т. МТС (8-029) 8545172. vk.com/club71844319 *

• **ДАМЫ, ЛАЗНІ** з прафіляванага бруса. Вытворчасць і мантаж. ІП Блізнюк І.І. УНП 191427015. Т. МТС (8-033) 6043716.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок-хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. Вэлком (8-029) 9920647, МТС (8-029) 7698467.*

• Дамы, дачы, гаражы, надбудова 2-га паверха з СІП (КТП) панэляў, выраб і мантаж. ТАА "Цеплапан". УНП 6911748044. Т. (8-029) 6153460, (8-033) 3764651.

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Пашыў аўтамабільных салонаў, чахлоў для машын любой маркі за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко Е.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184, МТС (8-029) 2322353.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў, выезд. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, мантаж дахаў. Заліванне падмуркаў, каркасная абшыўка памяшканняў. Аўтарскі мантаж альтанак. Наяўны і безнаяўны разлік. Гарантыя. ІП Глымушка А.В. УНП 391074483. Т. (8-029) 3235510.*

• **СЦЯЖКА ПАДЛОГІ** за 1 дзень растворапомпай. ІП Петрусевіч А.М. УНП 691513163. Т. (8-029) 7657280, (8-029) 8788989.*

• Усе віды дахавых работ, заліванне падмуркаў, кладка блокаў, аддзелка сцен гіпсакардонам, вагонкай, блокхаўсам. ІП Цыбульскі М.А. УНП 691518826. Т. (8-025) 9555719.*

• **УСТАНОЎКА ПОМНІКАЎ**, добраўпарадкаванне месцаў пахавання. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. МТС (8-029) 5544175, Вэлком (8-029) 3469417.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Парадыйнае шоу роставых лялек для дарослых на вяселлі, юбілеі, выпускныя. ІП Кановіч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692, (8-044) 4904791.*

• Электрамантажныя работы любой складанасці (кватэры, дачы, дамы). Устаноўка відэадамафонаў, устаноўка камер відэаназірання. ІП Араноўскі А.М. УНП 691516823. Т. МТС (8-029) 7667203, (8-029) 9710597.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Арматура d 8, 10, 12, дрот вязальны, дастаўка. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Арматура любога дыяметру, сетка рабіца, вугалок, труба, дастаўка. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Батарэі чыгунныя, б/у, 80 шт. Т. (8-029) 8429733.*

• Батарэі чыгунныя, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

• Бензапіла новая STIHL-MS-660. Цана дагаворная. Т. МТС (8-033) 6616578.

• Вугалок, труба для агароджы, арматура, сетка рабіца, дастаўка. Т. Вэлком (8-029) 3837697.*

• Пліты перакрыцця жалезабетонныя. Т. (8-044) 7970030.

• Сетка рабіца (ацынкаваная, вышыня 1,5 м), 200 тыс.руб/рулон. Слупкі металічныя (вышыня 2м), 40 шт. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7537679.*

• Сетка рабіца, 1,5 вышынёй, 10 м п., ацынк., 50 рулонаў, дастаўка. Т. МТС (8-029) 7774788.*

• Сетка рабіца, 1,5 м в., 150 м п., ацынкаваная. Т. (8-0176) 735823.*

• Сетка рабіца, 1,5 м в., ацынк., 100 м п., цана 225 тыс., дастаўка. Т. МТС (8-029) 7518549.*

• **ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА, БАРДЗЮРЫ.** ІП Селезень А.В. УНП 191863629. **Т. (8-029) 6752253, (8-029) 7697827.***

• ФБС, блокі г/с (15 куб.м) штыкетнік 10 куб.м. Т. (8-029) 8589498.*

• Шыфер, дастаўка. Т. (8-029) 6693188.*

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Каса бензінавая, Маладзечна. Т. Вэлком 6399324.*

• Касілка навясная КН-2.1. Т. (8-044) 7867623.

• Касілка прычапная, бульбасаджалка аднарадная, Польшча. Т. МТС (8-029) 8559449.*

• Культыватары. Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Пагрузчык "Балканкар" вілачны, грузападымальнасць 3,5 т., поўны капрамонт, 4200 у.а. Т. (8-029) 6953589.

• Плуг ПЛН-3-35, культыватар 4 м, навясны, касілка ротарная 2 м, граблі-валкавальнік. Т. (8-029) 2663733, (8-029) 3858748.

• Прычэп да мотаблока, мотакультыватара. Т. (8-029) 6843087, (8-0176) 730554.*

• Саджалка двухрадная, новая, Валожын. Т. (8-044) 5543365.*

• Станок шынамантажны, балансавальны для л/а, б/ч - 1200, стэнд для праўкі дыскаў, балансіроўка для грузавых аўто, Маладзечна. Т. (8-029) 1029102.

• Стужкавая піларама з заточным, б/у 1,5 года, у выдатным стане, 3900 у.а., торг. Т. (8-029) 8629860.*

• **ТРАКТАР МТЗ-82-УК У ВЫДАТНЫМ СТАНЕ, ШМАТ НОВЫХ ВУЗЛОЎ, 6000 У.А., ТОРГ. Т. (8-029) 6725908.**

• Трактар Т-16, у добрым стане, без дакументаў. Т. (8-029) 8552646.

• Усё для зборкі самаробнага трактара. Т. (8-0159) 262936, МТС (8-033) 6234459.*

### Бытавая тэхніка

• Машына пральная LG, WD-10390NDK, 2007 г.Т. (8-029) 5078439.*

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ НТВ +, "ТРЫКАЛОР". АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР". АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

### Мэбля

• Кухня б/у, дзверы б/у. Нядорага, Маладзечна. Т. (8-029) 1360885.

• Ложак двухспальны 210x160. Т. (8-029) 5078439.*

• Мяккі куток у выдатным стане: 3+2+1. Т. (8-029) 6161931, Алена.

• Мяккі куток, трохі б/у. Т. (8-044) 5807704, (8-033) 6019834.

• Секцыя б/у. Т. Вэлком (8-044) 7646116.*

• Спальня "Мара", камплект, б/у ў добрым стане, колер вішні. Т. (8-0176) 744212, Вэлком (8-044) 7296532, МТС (8-029) 5573243.

• Стол кухонны, авальны 140x90 см, на металічных стойках, б/у, як новы. Т. у Маладзечне 753046 (увечары).

• Трыльяж. Нядорага. Самавываз, Маладзечна. Т. (8-029) 7649289.*

• Шафа ад секцыі, Маладзечна. Т. (8-0176) 771060, (8-029) 3821838.

• Шафа 4-дзверная з антрэсоллю, секцыя, прыхожая, усё б/у, у добрым стане, нядорага, тэрмінова. Т. (8-029) 2716630.

### Жывёла, птушка, пчолы

• Бараны, авечкі, ягняты. Т. (8-029) 6578681.*

• В'етнамскія свінні. Т. МТС 5644195.*

• Каза, Маладзечанскі р-н. Т. (8-0176) 723184.*

• Кныр і парасяты в'етнамскай пароды, Маладзечна. Т. (8-0176) 723482, (8-033) 6316635.

• 3 козачкі маладыя, тэрмінова, нядорага, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6896790.

• Козлік, 2 месяцы, белы, бязрогі, Вілейка. Т. (8-029) 3599238.

• **КОНЬ РАБОЧЫ, ВЕЛЬМІ СПАКОЙНЫ, ТАКСАМА ЗБРУЯ, ВАЗОК, САНІ І ІНШАЕ, В.АБАДОЎЦЫ.** Т. (8-01771) 24020, МТС (8-029) 7079054.*

• Кураняты і падрошчаныя куры парод кохінхін, брама, фавероль, ушанка чубатая, паўлоўскія, кохінхіны карлікавыя і хатнія нясушкі, інкубатар на 700 яек. Т. (8-029) 5809602.

• Маладняк трусоў пароды "Бельгійскі волат", "Французскі баран", мяса. Т. (8-029) 7628438.*

• Раі пчол, пчаласем'і з вуллямі, Валожынскі р-н. Т. Вэлком (8-029) 6944819.*

• Рой, Маладзечна. Т. (8-044) 7818837, (8-029) 7734558.

### Іншае

• Акварыум 60 л, Маладзечна. Т. (8-0176) 771060, 80293821838.

• Агароджа рытуальная, 3,0x2,50, 1400000 руб. Дапамагу з дастаўкай. Т. Вэлком (8-029) 3919139.

• Каляска дзіцячая "паравозік" на дваіх Grago у выдатным стане, 100 у.а. Т. (8-044) 7640814.

• Каляска дзіцячая трансформер. Т. (8-029) 5078439.*

• Каляска дзіцячая, крэсельца для кармлення, ложак дзіцячы з шуфлядкай, усё б/у, нядорага. Т. (8-029) 7757806.

• Шынамантажнае абсталяванне, кампрэсар, аўтапад'ёмнік, выдатны стан, за ўсё 3000 у.а. Т. (8-029) 8716226, (8-029) 9355568.*

## КУПЛЮ

### Будматэрыялы, сантэхніку

• Арматуру, вугалок, трубу, сетку зварную, гідраізаляцыю. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Арматуру, трубу, гідраізаляцыю. Т. (8-033) 6603068.*

### Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне

• Прычэп самазвальны да МТЗ-80, 82. Т. Вэлком (8-029) 6028263.

• Радыятары вадзяныя абагравальныя, стальныя, плоскія, б/у. Т. (8-029) 6550799.*

• Рухавік УД-2. Т. (8-029) 872-65-17.*

### Жывёлу

• Кабана, свінню. Т. МТС (8-029) 2552321.*

• Каня, карову, быка, цяля на вымушаны забой. ІП Васільеў В.П. УНП 391113930. Т. МТС (8-029) 5232740, МТС (8-029) 5161666.*

• Свіней жывой вагой, дорага. Т. Вэлком (8-029) 6744288, МТС (8-029) 5513824.*

### Антыкварыят

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРНЫЯ, СТАРЫЯ, ВІНТАЖНЫЯ РЭЧЫ.** ІП Пацалуеў У.Ю. УНП 691518180. Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 6, "Антыкварная лаўка", каля старога рынку. Т. (8-029) 2042518 МТС, (8-029) 1483047 Вэлком.*

### Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігі і іншае. Т. Вэлком (8-029) 9431577.*

• Лямпавы прыёмнік TV, патэфон, радыёлямпы. Т. (8-029) 6671315.

## ЗГУБЛЕНА

• Згубленае пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ПТУП "Каліны Еўропы" УНП 690685935 лічыць несапраўдным.

• Згубленае пасведчанне аб заканчэнні навучання ў 1995 г. у УКК "Надзея" па спецыяльнасці закройшчык верхняга адзення на імя Раецкай Алены Францаўны лічыць несапраўдным.

- 9 мая ў раёне вёсак Лыцавічы, Золькі Вілейскага р-на згубіўся сабака, нямецкі ягдтэр'ер, кабель, чорнай масці з падпалам. За пэўную інфармацыю – узнагароджанне. Т. (8-029) 6516658.



## ІНШАЕ

- Дапамагу ў распілоўцы дроў, Маладзечна. Т. (8-029) 2609392.*
- Пра яго кажуць: "Таленавіты не па гадах". Выканаўца, які зачароўвае незвычайным аксамітным барытонам, Аляксей Бранцаў з канцэртам у Маладзечне. Амфітэатр, 15 чэрвеня. УНП 690244105. Пачатак у 21.00. Т. (8-0176) 752784.
- Шукаю спадарожнікаў ў Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*




## ШУКАЮ РАБОТУ

- Усе віды будаўнічых работ. Т. (8-029) 8250264.*
- Шукаю работу па зборцы мэблі, у Маладзечне. Т. (8-029) 8761612.*
- Аўтакарбюратаршчык, сістэма запальвання ГРМ, шукае працу, падпрацоўку, Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.*
- Дахі і фасады пад ключ. Т. (8-029) 2641389.*
- Мантаж, дэмантаж дахаў, падшыва, вадасцёкі, афарбоўка дамоў, фасады. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Шукаю работу па ўкладцы ламінату. Т. (8-029) 6548038.*
- Шукаю работу па ўкладцы тратуарнай пліткі. Т. (8-029) 5024061.*
- Электрамантажнік шукае работу. Электрамантаж кватэр, дач і іншых памяшканняў. Досвед, гарантыя, якасць. Т. (8-029) 5014877.

## ПАТРАБУЮЦЦА

- Арганізацыі патрабуецца педагог-выхавальнік, Вілейка. ТАА "АрсМакс". УНП 691506094. Т. (8-029) 2523791.*
- Арганізацыі патрабуюцца супрацоўнікі, 500-800 у.а. у месяц. ІП Філіповіч. УНП 690692606. Т. (8-029) 8245376, (8-029) 5615380.
- ДУП "ПМК-185", УП "Мінскаблсельбуд", г.Вілейка на пастаянную работу патрабуюцца муляры. Заработная плата ад 6 млн.руб. УНП 690018995. Т. (8-01771) 37812, (8-033) 6300391.
- Нянька для дзіцяці 1 год 8 мес, тэрмінова, Маладзечна. Т. (8-029) 5731740.
- ІП патрабуюцца станочнікі дрэваапрацоўчых станкоў. ІП Градабаеў І. І. УНП 690240510. Т. у Маладзечне МТС (8-029) 7601291, Вэлком (8-029) 1346988.
- **МУЛЯРЫ.** Т. Лайф (8-025) 9300905.*
- Патрабуецца прадавец на стары рынак з досведам работы. Гародніна, садавіна, Маладзечна. Т. (8-029) 5012185.

● МОЙ КРАЙ

# Невядомая гісторыя. Батурына

*Працяг.*
*Пачатак у №№22, 23.*

**ВІЛЕЙКА. Ёсць у Вілейскім раёне вёсачка з загадкавай назвай Батурына. Яе заўжды закраналі ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў.**

Першая сусветная вайна ў Батурыне пакінула свой след руйнавання, рабавання, смерці ад голаду і тыфу. У вёсцы не хапала галоўнага – працоўнай сілы. Коней амаль зусім не было, а мужыкоў засталося толькі палова.

Ігнат Арцішэўскі быў вельмі прыгожы, статны, мужны і ўжо сталы. Заглядаліся на яго і ўдовы, і маладзенькія дзяўчаты. Вось на адну з іх ён і звярнуў увагу.

На 11 год маладзейшая, невялічкага росту, красуня-шчабятушка Ганна, адзіная позняе дзіцятка ў бацькоў Міхалкі і Елісаветы Мордасаў, вельмі моцна запала ў сэрца былога вайскоўца.

Неяк аднаго разу зайшоў Ігнат у хату да сваёй каханай, ды так і застаўся ў яе на ўсё жыццё. Павянчаліся ў сваім касцёле, акурат пасля ўстанаўлення польскай улады ў 1921 годзе.

Маладая сям'я ў спадчыну ад бацькоў Ганны атрымала тры дзесяціны зямлі і кут у хаце. Дзеткі нараджаліся адзін за адным: Іосіф –1922 г.н., Болесь – 1924 г.н., Вітак – 1927 г.н., Стась –1929 г.н., Юзэфа –1931 г.н., Бронак – 1936 г.н., Ганна – 1939 г.н.

Такую сям'ю пракарміць, а ў дадатак яшчэ і ў школу выправіць было вельмі цяжка, таму даводзілася хадзіць на падпрацоўку на кароўнік у Гелянова да пана Кондрата Бароўскага.

## Пан Кондрат Бароўскі з Гелянова

У пана працы хапала, ды і плата была не зусім дрэнная. Беззямельныя сяляне не мелі магчымасці трымаць сваю гаспадарку, але па загадзе пана Кондрата кожны селянін, які ў яго працаваў, павінны быў мець карову.

Сялянскія каровы стаялі ў кароўніку разам з панскімі, і корм ім давалі той жа, што і панскім. У Лукаўцы, у пана Яна Бароўскага, гаспадарка была нашмат большая.

Быў у яго і свой спіртзавод, брагу з якога выкарыстоўвалі для корму жывёле як панскай, так і сялянскай. Вазілі гэту брагу пастаянна і на кароўнік у Гелянова.

А вось летам пасвіліся каровы чамусьці ў розных статках, асобна. Сяляне, чые каровы стаялі ў пана, выдойвалі малако ўсё сабе. Лішкі маглі здаць на малачарню ў Хаценчыцы альбо на сырабойню ў Чарвякі (сёння – Сакалоўка).

Школа ў Батурыне працавала, і дзеці мелі магчымасць атрымаць пачатковую адукацыю. І не бяда, што польскамоўную. Дзеткі Арцішэўскіх адзін за адным заканчвалі школу, усе атрымалі пачатковую адукацыю.

Набліжаўся 1939 год. Улетку ў тым годзе пачалі з'язджаць на захад паны Бароўскія. Першымі пакінулі свае маёнткі чарвякоўскі пан Ігнась Бароўскі і пан Ян Бароўскі з Лукаўца, а за імі і пан Лявон Бароўскі са Шчокаўшчыны, які займаў пасаду войта Хаценчыцкай гміны. А чацверты іх брат, гелянаўскі пан Кондрат Бароўскі, назаўсёды застаўся на беларускай зямлі.

Прыкладна ў 1937 годзе трагічны выпадак забраў жыццё маладога, чулага і спагадлівага да людзей чалавека. Асобнага маёнтка ў пана Кондрата не было, ён жыў у агульным Лукавецкім сядзібным комплексе-маёнтку разам з братам Янам Бароўскім.

Аднаго разу, едучы на кані верхам з Гелянова ў Лукавец, Кондрат патрапіў пад моцную навальніцу. Сцяжынка, па якой звычайна ездзіў пан, пралягала пад раскідзістым шматвекавым дубам, які рос непадалёк ад спіртзавода. У той момант, як пан праязджаў каля гэтага дуба, у яго стукнула маланка.

Пахавалі пана Кондрата на Навасёлкаўскіх могілках у грабніцы, якую падчас вайны хтосьці зруйнаваў і абрабаваў. Мабыць, нейкія марадзёры шукалі золата.



**1914 год. Ігнат Арцішэўскі (у другім радзе справа), батурынец, мабілізаваны ў царскае войска.**

Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

## 17 верасня 1939 года

Ксёндз Батурынскага касцёла Вайткевіч, замяніўшы ксяндза Сэнчака незадоўга да прыходу бальшавікоў, напярэдадні з'ехаў з Батурына на сваёй матацыклетцы да сябе на радзіму ў Літву. Застаўся ў касцёле толькі арганіст, Іван Рыкшта. А польскія памежнікі пачалі папаўняць свой вайсковы гарнізон за кошт мабілізацыі мясцовых сялян і інтэлігенцыі.

Акрамя сялянства, у Войска Польскае былі мабілізаваныя настаўнік Батурынскай пачатковай школы пан Цапеля (родам з Зялёнай Гуры), пісар пры Хаценчыцкай гміне Ясь Паўлюкевіч і інжынер-будаўнік гміны Пётра Сыч.

Польскі вайсковы гарнізон быў размешчаны за пяць вёрст ад Батурына, на Брыцкім. На тэрыторыі гарнізона знаходзіўся шпіталь, у якім лячыліся вайскоўцы, тыя, хто там працаваў і прыслужваў афіцэрам.

Сюды таксама маглі звярнуцца па медыцынскую дапамогу і жыхары з навакольных вёсак.

У гарнізоне налічвалася каля двухсот жаўнераў і конныя раз'езды. На ўзбраенні, акрамя асабістай зброі, былі кулямёты і нават некалькі гармат.

Раніцай 17 верасня 1939 года з боку Краменца і Мышыц на Батурына з крыкам "ура-а-а-а!" пайшла невялікая групоўка бальшавіцкіх вайскоўцаў. Захапіўшы без стрэлаў стражніцу ў Батурыне, якую польскія памежнікі па загадзе камандавання пакінулі яшчэ з вечара, бальшавікі рушылі на Брыцкае, дзе знаходзіўся польскі гарнізон.

Атрымаўшы нечаканае супраціўленне, яны вымушаныя былі адступіць да Старынак, каб дачакацца галоўных часцей савецкага войска. Гэтым часам гарнізон зняўся і ў спешным парадку пачаў адступаць на захад.

## Пётра Сыч

Пад Ашмянамі паміж гарнізонам з Брыцкага, які адступаў, і савецкімі "вызваленцамі" завязаўся бой, у якім большая частка польскіх жаўнераў загінула, а астатнія трапілі ў бальшавіцкі палон.Трапіў у палон і паручнік Пётра Сыч, але нейкім чынам яму ўдалося збегчы.

Пачалася калектывізацыя. Той, хто меў сваю зямлю, страціў яе. Такім шляхам і шляхам абкладання вялікімі падаткамі бальшавікі прымушалі сялян ісці на працу ў арганізаваны ў Гелянове саўгас.

Пасля калектывізацыі, прыйшоў час рэпрэсій. Вярнуўшыся ў сваё роднае Батурына з палону, Пётра Сыч у хуткасці быў арыштаваны і змешчаны ў Вілейскую турму. Пасля допытаў і катаванняў быў перавезены ў Полацк.

У 1940 годзе, пасля прысуду да 10 год лагераў, быў сасланы ў Комі. У Батурыне засталася яго цяжарная жонка і чатырохгадовая дачка Броня.

Каб было больш зразумелым, хто такія Сычы, трэба вярнуцца крыху назад. Нарадзіўся Пётра Сыч не ў Батурыне (як шмат дзе пішуць), а ў суседняй вёсцы Мышыцы 18 студзеня 1912 года. Бацьку ён свайго ніколі не ведаў, маці гадавала яго адна.

Пятру было годзікаў шэсць, як усталявалася бальшавіцка-германская мяжа паміж Мышыцамі і Батурынам. Шмат хто з людзей тады намагаўся з усходняй часткі Беларусі патрапіць у заходнюю. Падганялі іх у гэтым тамашні голад і безуладдзе.

Рушыла за мяжу і Марыся Сыч са сваім маленькім Пятром. Пасяліліся ў Гелянове, у вярсце ад Батурына, у маленькай панскай пабудове каля панскага кароўніка, там жа знайшлі і працу.

Пётра хадзіў у батурынскую школу, а менавіта ў той час тут настаўнічаў вядомы наш зямляк, пісьменнік Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік), які нарадзіўся ў вёсцы Пасадзец.

А вось як на Пятра 1918 года каля касцёла абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка, то я ўпэўнены, што маленькі Пётра Сыч там таксама быў.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**13 чэрвеня.** 115 гадоў з дня нараджэння Станіслава Навіцкага (1899 – 1972), беларускага цымбаліста, заслужанага артыста Беларусі.

***

**105 гадоў** з часу заснавання (1909) у Віцебску вучонай архіўнай камісіі (дзейнічала да 1919 г.).

***

**14 чэрвеня.** 120 гадоў з дня нараджэння Яна Гамарніка (1894 – 1937), савецкага, партыйнага і ваеннага дзеяча.

***

**75 гадоў** з дня нараджэння Арнольда Памазана (1939), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

***

**15 чэрвеня.** 1905 год. Нарадзіўся Юрка Віцьбіч, пісьменнік, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

***

**16 чэрвеня.** 180 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ельскага (1834 – 1916), беларускага гісторыка, этнографа, краязнаўца, пісьменніка, перакладчыка, публіцыста.

***

**1993 год.** Вярхоўны Савет РБ прыняў Закон "Аб праве ўласнасці на зямлю".

***

**18 чэрвеня.** 75 гадоў з дня нараджэння Алега Янчанкі (1939 – 2002), беларускага арганіста, кампазітара, народнага артыста Расіі.

***



**19 чэрвеня.** 90 гадоў з дня нараджэння Васіля Быкава (1924 – 2003), народнага пісьменніка Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна ў сялянскай сям'і. Творчая біяграфія пачыналася ў пасляваенныя гады. Гэтым падзеям прысвечаная і тэматыка асноўных твораў.

***

**220 гадоў** назад нарадзіўся Ян Баршчэўскі (1794, паводле іншых крыніц 1790, ці 1796 – 1851), беларускі і польскі пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

***

**110 гадоў** назад (1904) у вёсы Папоўцы Вілейскага раёна нарадзіўся Канстанцін Зубовіч. У лістападзе 1944 года пайшоў радавым на фронт, вызначыўся ў баях на тэрыторыі Венгрыі, пры фарсіраванні Дуная 5 снежня 1944 года. Загінуў 28 снежня 1944 года, пахаваны ў Будапешце. 24 сакавіка 1945 года пасмяротна ўганараваны званнем Героя Савецкага Саюза, яго імем названыя вуліцы ў Вілейцы і Нарачы.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Усміхніцеся свету, і свет у адказ усміхнецца вам!

**Шчырая ўсмешка, маміна ўсмешка, дзіцячы смех, звонкі рогат – падобныя словазлучэнні выклікаюць замілаванне, і мы міжволі пачынаем усміхацца ў адказ.**

Навукоўцы выявілі, што паміж усмешкай і адчуваннем шчасця ёсць прамая сувязь. Людзі, якія смяюцца або ўсміхаюцца, уздзейнічаюць на так званую "зону шчасця", размешчаную ў левым паўшар'і мозга.

Усміхацца – гэта не толькі прыемна, але яшчэ і карысна, усмешка падымае настрой.

1. Усмешка робіць нас шчаслівымі (нават пры дрэнным настроі).

Памятаеце пра сувязь мозг–цела? Дык вось, звычайная ўсмешка пасылае ў мозг сігнал, што мы шчаслівыя. А калі мы шчаслівыя, арганізм пачынае выпрацоўваць рознага роду эндарфіны, якія падымаюць настрой.

Гэты прынцып быў адкрыты ў 1980-х гадах і пацверджаны цэлым шэрагам даследаванняў. Але даследаванні паказваюць і адваротны бок: нахмурыўшыся, людзі пачынаюць адчуваць сябе нешчаслівымі.



Няма нічога даражэйшага за дзіцячую ўсмешку. Яна растопіць лёд у вашай душы і зробіць шчаслівым. Вучыцеся і вы шчыра ўсміхацца і радавацца жыццю.

Фота google.com

**Памятайце: прыгожая ўсмешка інтрыгуе, сціплая замілоўвае, добрая радуе, шчаслівая зачароўвае, шчырая натхняе. Усмешка не пакідае абыякавым.**

2. Усмешка робіць шчаслівымі людзей вакол вас.

Усмешка – заразлівая. Даследаванні паказваюць, што дастаткова ўбачыць усмешлівага сябра або сяброўку, і чалавек міжволі пачынае таксама ўсміхацца. Калі хтосьці ўсміхаецца, ён заражае добрым настроем іншых. Усмешлівы чалавек прыносіць шчасце.

3. Усмешка робіць нас больш прывабнымі.

Мы звяртаем увагу на людзей, якія ўсміхаюцца. Існуе фактар прыцягнення: мы хочам ведаць, хто і навошта ўсміхаецца. Хмурнасць і грымасы адштурхоўваюць людзей, а ўсмешка прыцягвае. Чароўная ўсмешка робіць чалавека больш прывабным у вачах прадстаўнікоў супрацьлеглага полу.

Таму, калі будзеце прызначаць спатканне, не забудзьцеся ўсміхацца. Гэта зробіць вашу палову больш шчаслівай, а вас – больш прывабнымі.

4. Усмешка дапамагае зняць стрэс.

Усмешка дапамагае пазбавіцца ад стомы і перанапружанасці. Усмешка здольная змяншаць пачуццё трывогі. Калі сігналы, што мы шчаслівыя (нават калі гэта і не зусім так у дадзены момант), дасягаюць мозга, арганізм памяншае частату дыхання і сардэчных скарачэнняў. Зніжэнне ўзроўню стрэсу вельмі добра адбіваецца на здароўі ў цэлым, таму што зніжаецца артэрыяльны ціск, паляпшаецца страваванне і нармалізуецца ўзровень цукру ў крыві.

**Каб нахмурыцца, трэба задзейнічаць 72 мускулы, а каб усміхнуцца – 14.**

5. Усмешка больш прывабная, чым макіяж.

69% людзей лічаць, што ўсмешлівая жанчына без макіяжу больш прывабная, чым жанчына без усмешкі, хоць яна і выкарыстоўвае касметыку. Мышцы, якія задзейнічаем, каб усміхацца, падцягваюць твар, што робіць чалавека маладзейшым.

6. Усмешка станоўча ўплывае на здароўе.

Усмешка дапамагае імуннай сістэме працаваць лепш. Калі вы ўсміхаецеся, вы больш расслабленыя. Цэлы шэраг даследаванняў даказвае дабратворны ўплыў смеху на здароўе чалавека, у тым ліку і тое, што смех падобны да міні-трэніроўкі, з-за чаго спальваецца тлушч і паляпшаецца рэльеф мышцаў прэса. Смех таксама паляпшае кровазварот, зніжае ўзровень цукру ў крыві, памяншае ўзровень стрэсу і паляпшае сон. Ён таксама здольны павышаць у арганізме ўзровень антыцелаў, якія змагаюцца з інфекцыямі і паляпшаюць працу імуннай сістэмы.

7. Усмешка робіць вас паспяховым.

Усмешлівыя людзі выглядаюць больш упэўнена. Надзеньце ўсмешку на сходы і сустрэчы, і людзі будуць рэагаваць на вас па-іншаму. Паводле даследаванняў, апытаныя схільныя лічыць, што такія людзі больш прывабныя, упэўненыя ў сабе, прыстойныя і рашучыя.

Варта адзначыць, што неабходнасць "апранаць" на твар фальшывую ўсмешку дрэнна адбіваецца на здароўі, і чалавеку пагражаюць дэпрэсія, павышэнне артэрыяльнага ціску, імунныя хваробы.

## Як усмешка раскрывае асобу

Прапаную вам невялікі псіхалагічны тэст, які вызначае асаблівасці вашай асобы.

• Калі падчас смеху чалавек дакранаецца да сваіх вуснаў мезенцам, гэта азначае, што яму важна паказваць са свайго боку грацыю, добры тон і прывабнасць. Вам падабаецца быць у цэнтры ўвагі.

• Падчас смеху прыкрываеце рот рукой. Вы крыху нясмелы чалавек і не вельмі ўпэўнены ў сабе. Часта бянтэжыцеся, не хочаце раскрывацца і застаяцеся ў цяні.

• Даверлівыя і наіўныя смяюцца, закідваючы галаву. Але ў той жа час гэтыя людзі маюць шырокую натуру, часам здзяйсняюць непрадказальныя ўчынкі, забываючы пра голас розуму.

• Той, хто ад смеху дакранаецца да твару, галавы ці валасоў, схільны да фантазёрства і мараў.

• Калі вы моршчыце нос і ваша міміка хутка мяняецца, гэта характарызуе вас як эмацыйнага і трохі капрызнага чалавека, схільнага мяняць нечакана свае погляды і настрой.

• Тэмпераментныя і гарачыя людзі смяюцца гучна і з адкрытым ротам. Яны камунікабельныя і любяць знаходзіцца ў цэнтры ўвагі.

• Тыя, хто нахіляе галаву перад тым як засмяяцца, добразычлівыя. Іх думкі і ўчынкі заўсёды знаходзяцца пад кантролем.

• Калі вы смяецеся і прыжмурваеце павекі, гэта гаворыць пра вашу ўнутраную ўпэўненасць, настойлівасць і выдатны розум.

• Калі ў вас няма пэўнай манеры ўсміхацца, гэта гаворыць пра тое, што вы належыце да індывідуалістаў, для вас больш важнае ўласнае меркаванне, чым меркаванне блізкіх.

АПАВЯДАННЕ

## Што робіць усмешка

У адной вёсачцы стаяў дом, зроблены з тысячы люстэркаў. Аднойчы адзін маленькі шчаслівы сабачка вырашыў яго наведаць. Ён радасна падняўся па прыступках дома і зазірнуў унутр, віляючы хвосцікам.

Сабачка ўбачыў яшчэ тысячу такіх жа шчаслівых маленькіх сабачак, якія глядзелі на яго і таксама вілялі хвосцікам.

Ён усміхнуўся, і адлюстраванні ўсміхнуліся яму, таксама цёпла і прыязна.

Сабачка захоплена падумаў: "Якое дзіўнае месца, тут мне ўсе рады! Я буду часцей сюды прыходзіць і атрымліваць асалоду ад радасці!"

У той вёсачцы жыў і іншы сабачка. На жаль, быў ён нешчаслівы і заўсёды і ва ўсім чакаў непрыемнасцяў. Ён пачуў пра дом міралюбных сабак і, у надзеі здабыць шчасце, таксама вырашыў яго наведаць.

Яму так хацелася шчасця і радасці! Але ў глыбіні сваёй сабачай душы не верыў у свет, у якім могуць існаваць прыязныя сабакі. Выскаліўшыся ў чаканні непрыемнасцяў, ён нізка апусціў галаву і прасунуўся ў дзверы.

Ён убачыў тысячы надзвычай злых сабак, якія глядзелі на яго. Ён загыркаў і тут жа спалохаўся, бо ў адказ тысячы сабак загыркалі на яго.

Пакідаючы гэта месца, сабака пра сябе думаў: "Якое жудаснае месца. Ніколі больш сюды не прыйду. Я так і ведаў, што нідзе на зямлі няма месца прыязнасці, радасці і шчасця".

Навакольны свет – гэта люстэрка нашай душы. Усміхніцеся свету, і свет у адказ усміхнецца вам!

Усміхайцеся і смейцеся на здароўе!



Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг
Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

● ДА 100-ГОДДЗЯ ПАЧАТКУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Нарачанскі рэгіён у 1916 годзе

*Заканчэнне. Пачатак у №№22, 23.*

**МЯДЗЕЛ. Зіма 1915-1916 гадоў на расійска-германскім фронце прайшла адносна спакойна. Затое на берагах Нарачы рускія вызначыліся ўдала праведзенай аперацыяй.**


Фота з кнігі Генадзя МАЛЫШАВА "Нарачанская рэха Вердэна".

У перадавым акопе. Ліст на радзіму.

## Баявыя дзеянні не спыняліся

Нягледзячы на зніжэнне ваеннай актыўнасці ў раёне Нарачанскіх азёр пасля сакавіцкіх падзей 1916 года, баявыя дзеянні тут не спыняліся. Захаваліся звесткі аб паветраным баі на гэтым участку фронту. У зводках Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага рускай арміі прыводзяцца такія звесткі: "На поўнач ад возера Мядзіол прапаршчык Томсан на апараце "Н'юпар" пераследаваў нямецкі "Альбатрос" і гнаў яго да м. Кабыльнік. "Альбатрос" сышоў па кірунку на паўночны захад, а Томсан, абстраляўшы з кулямёта лагер на аэрадроме ў раёне Кабыльніка, паспяхова вярнуўся". Датаванае паведамленне 16 ліпеня 1916 года.

## З успамінаў

Для мясцовага насельніцтва вайна прынесла незлічоныя беды, гора і пакуты.

Вось некаторыя факты з "Ведамасцяў" Княгінінскай царквы за 1916 год: "... кліру належыць ферма "Беркаўшчына", у якой ёсць 49 дзесяцін. 1096 кв. саж. добрай зямлі і няўдобіцы. Ферма здадзеная ў арэнду памешчыку Паклеўскаму-Козелу за 286 р. 50 к. у год , але арэнды кліру у 1916 годзе не атрымаў: зямля і сенакос арандатарам не былі выкарыстаныя па прычыне ваеннага часу... Пры царкве ёсць староста царкоўны селянін **Сяргей Сцяпанаў Грышкевіч**, які ў жніўні 1916 года ўзяты на ваенную службу".

Вайна ўплывала на лёсы людзей, пакідала зарубіны ў памяці. Вось апавед ураджэнца вёскі Пярэгрfavдзь **Адольфа Клечкі** пра падзеі на востраве Замак. Ён размешчаны пасярод возера Мядзел і апынуўся на перадавой лініі руска-германскага фронту:

"У пачатку мінулага стагоддзя востраў Замак належаў пану Козелу-Паклеўскаму (маёнтак яго знаходзіўся непадалёку ад вёскі Юшкавічы). На Замку быў вялікі дом, цяпер бачныя рэшткі падмурка даўжынёй 25 і шырынёй 10 метраў, каменныя падвалы... З Вільні сюды прыязджала сям'я толькі летам, а слугі тут жылі круглы год – жанчына Цыцэлія з вёскі Пярэгарадзь і Міхневіч. Яны трымалі дзвюх кароў, каня, мелі лодкі... У 1914 годзе пачалася вайна. Калі руская армія адступіла, востраў занялі немцы. Пад рукі яны вывелі Козела-Паклеўскага, які быў якраз там, пасадзілі ў лодку, паплылі да паўвострава Дубовае, потым адправілі яго ў тыл, хутчэй за ўсё ў Вільню... Немцы засялі на востраве, рускія пачалі адбіваць яго. Ад артылерыйскага снарада згарэў дом. Потым рускія салдаты зрабілі вялікія лодкі, якія ўмяшчалі па 10 чалавек. У дзве з іх пасадзілі па восем чалавек адважных ваяўнічых казакоў і загадалі плыць да замка. Цёмнай ноччу, пад вецер, ціха і непрыкметна планавалі высадзіцца на бераг. І ўсё ж немцы іх заўважылі. Казакоў з адной лодкі ўсіх знішчылі (пахавалі іх на беразе). Іншая лодка паспела схавацца ў начной цемры і вярнуцца на бераг. Пазней немцы самі пакінулі востраў".

Апісанне падзей Першай сусветнай вайны на Мядзельшчыне можна знайсці ў дзённіку нашага земляка ўраджэнца вёскі Скары **Міхаіла Мялешкі**, ва ўспамінах ураджэнца Арэнбурга **Маркела Максімава**, у мемуарах **Міхаіла Лемке** "250 дзён у Стаўцы", у кнізе французскага пасла ў Расійскай імперыі **Морыса Палеолага** "Царская Расія напярэдадні рэвалюцыі", ва ўспамінах начальніка аховы царскай сям'і **Аляксандра Спірыдовіча** "Вялікая Вайна і Лютаўская Рэвалюцыя 1914-1917 гг.", кнізе **Алега Платонава** "Мікалай II у сакрэтнай перапісцы", у рамане **Валянціна Пікуля** "Маанзунд"...

Аднак да гэтага часу адчуваецца недаказанасць пра трагічныя падзеі той вайны. Адсутнасць правільных высноў прывяла да таго, што жорсткая барацьба паміж усходнееўрапейскай і заходнееўрапейскай цывілізацыямі працягвалася і надалей...

У наш час нашчадкі павінны не толькі клапаціцца пра магілы герояў, але і памятаць, што любы канфлікт трэба вырашаць мірным шляхам.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ,**
**в. Нарач (Кабыльнік).**

● СПАБОРНІЦТВЫ

# Каманда Гудагайскай школы перамагла ў гульні "Зарніца"

**АСТРАВЕЦ. Спартыўна-патрыятычная гульня «Зарніца», прысвечаная 70-й гадавіне з дня Перамогі, прайшла 16 мая на гарадскім стадыёне.**

Прадэманстраваць свае ваенныя навыкі сабраліся шэсць камандаў з розных школ Астравецкага раёна. Каманды Астравецкай гімназіі №1, школы №1 з Астраўца, Гервяцкай, Міхалішкаўскай, Гудагайскай сярэдніх школ, Варнянскіх ясляў-садашколы.

У першым выпрабаванні "Агляд строю" ўсім удзельнікам неабходна было прадэманстраваць выкананне ўсіх камандаў. Лепш за ўсіх з гэтым справілася каманда Гудагайскай школы.

Пасля каманды спрабавалі свае сілы ў конкурсе "Старонкі гісторыі Айчыны", дзе каманда з Варнянаў была значна мацнейшай.

У конкурсе "Снайпер" пяці ўдзельнікам (тром хлопчыкам і дзвюм дзяўчатам) ад кожнай каманды неабходна было выстраліць з пнеўматычнай вінтоўкі ў мішэнь. Кожнаму ўдзельніку давалася па адной спробе.

Званне самых трапных снайпераў раздзялілі паміж сабой дзве астравецкія каманды.

У конкурсе "Алімпійскі залік", які ўключаў у сябе бег на 100 і 1000 метраў, падцягванне, скачкі ў даўжыню з месца, уздым тулава, хутчэй за ўсіх і без штрафных ачкоў да фінішу прыйшла каманда Міхалішкаўскай сярэдняй школы.

Апошнім іспытам у гульні "Зарніца" быў конкурс – "Бяспека на вуліцах і дарогах". Лепшымі ў гэтым спаборніцтве сталі ўдзельнікі каманды Гудагайскай школы.

У гэты ж час каманды рыхтавалі свае "Баявыя лісткі", тэма якіх "Змагацца і шукаць, знайсці і не здавацца". Лепшы "Баявы лісток" у камандаў з Міхалішкаў, Варнянаў і Гервятаў.

У агульным жа заліку першае месца заваявала каманда Гудагайскай школы, на другім месцы – Міхалішкаўскай школы, а "бронза" – у каманды Варнянскіх ясляўсад-школы.

У намінацыі завочнага конкурсу "Памяць" лепшымі сталі прадстаўнікі Гервятаў.

Каманда Гудагайскай сярэдняй школы прадставіць Астравецкі раён на абласной спартыўна-патрыятычнай гульні "Зарніца", якая пройдзе ў чэрвені ў Гродне.

**Вікторыя КАВЕЦКАЯ,**
**культарганізатар цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.**


Фота забяспечана Вікторыяй КАВЕЦКАЙ.

Адным з этапаў "Зарніцы" быў конкурс трапнай стральбы "Снайпер".

ФУТБОЛ

# "Маладзечна-2013" – трэцяя перамога запар

**МАЛАДЗЕЧНА. Матч шостага тура чэмпіянату краіны сярод камандаў другой лігі адбыўся 7 чэрвеня. Камандзе "Маладзечна-2013" супрацьстаяла каманда "ЮА-буд-Жыткавічы".**

Стартавы свісток. Маладзечанскія футбалісты на правах гаспадароў поля пачалі пакрыху дыктаваць свае ўмовы саперніку, але да небяспечных момантаў справа не даходзіла, першы тайм нічым асаблівым не адзначыўся.

Пачатак другога тайма зялёна-белыя аддалі камандзе з гомельскай вобласці, толькі ад сярэдзіны тайма атакі маладзечанцаў сталі больш правамернымі, а пасля і наогул абвастрыліся. Чаго вартыя некалькі выхадаў **Аляксандра Працкевіча** сам-насам з варатаром саперніка – той цягнуў усё мячы, тым самым ратуючы сваю каманду раз за разам.

"Жыткавічы" нядрэнна "агрызаліся" ў контратаках і ледзь не вырвалі перамогу ў напружаным паядынку, але варатар "Маладзечна" **Павел Мілеўскі** добра адыграў на выхадах і захаваў вароты некранутымі. Напрыканцы матча маладзечанцы ўсё ж дацiснулі саперніка і вырвалі перамогу! Пасля перадачы **Андрэя Лявончыка** ў патрэбным месцы апынуўся Аляксандр Працкевіч, які і адправіў галавой мяч у сетку – 1:0.

Праз дзве хвіліны, ужо на дадатковых хвілінах матча, у штрафной каманды "ЮА-буд-Жыткавічы" ўзнікла неразбярыха, чым скарыстаўся дасведчаны Андрэй Лявончык – 2:0.

Вынікі матча пракаментаваў дырэктар ФСК "Маладзечна-2013" **Аляксандр Любанец**:

– Гэта гульня была добрай. Не буду цалкам хваліць маладзечанцаў, таму што хібы ў гульні ўсё ж такі здараюцца. Хлопцы ствараюць вострыя моманты, але да патрэбнага выніку не даводзяць гульню. Заўважу толькі тое, што каманда добра выконвае ўстаноўкі трэнера **Дзмітрыя Ганчарова.** А перамога? Ну, напэўна, яна была заканамернай. У гэтай гульні маладзечанцы аказаліся больш спрытнымі. Асабліва хочацца адзначыць нашага варатара і капітана **Паўла Мілеўскага.** Ён столькі разоў за гульню ратаваў сваю каманду!

Наступны матч чэмпіянату адбудзецца ў Мінску 15 чэрвеня. Сапернікамі ФК "Маладзечна-2013" стане сталічны клуб "Партызан". Пачатак матча ў 18.30.

**Наталля ТУР, Павел МАЛАШКА.**


Фота Уладзіслава МРОЧКА.

Момант гульні. Злева маладзечанец Андрэй Шаблінскі.

НАВІНЫ

## "Вілія" прайграла лідару

**ВІЛЕЙКА.** Гульню шостага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "Вілія" з Вілейкі правяла 7 чэрвеня ў гасцях. Сапернікам стаў мясцовы футбольны клуб "Барысаў", які лідзіруе ў групе "А".

"Вілія" прайграла 1:3. Адзіны гол у віляйчан забіў **Юры Сыраквашка.**

Наступны матч "Вілія" правядзе 15 чэрвеня дома супраць "Коласа" з Чэрвеньскага раёна.

## ... А маладзечанцы "накалацілі" 11 галоў

**МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** У іншых гульнях чэмпіянату вобласці па футболе "Валожын-2010" 7 чэрвеня дома саступіў 1:4 "СМІаўтатрансу".

"Забудова-2007" 8 чэрвеня ў гасцях перайграла "Беразіно" 3:2. "Маладзечна-ДЮСШ-4" разграміла 11:1 аўтсайдара першынства "Крупкі-ДРБУ-164". Дублямі адзначыліся **Дзмітры Вышынскі, Сяргей Лавор, Павел Майсяёнак.**

Маладзечанцы ў групе "А" займаюць другое месца. Яны забілі найбольш галоў не толькі ў сваёй групе, але і ва ўсім чэмпіянаце – 28. "Забудова-2007" ідзе трэцяй, "Вілія" – шостай, валожынцы – дзявятымі.

## Спынілася пераможная серыя "Смаргоні"

**СМАРГОНЬ.** Пасля чатырох перамог запар у дзявятым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" прайграла. Дома смаргонцы гулялі з адным з лідараў – "Рэчыцай-2014". Першымі вызначыліся гаспадары: у пачатку другога тайма гол забіў **Мікалай Рындзюк.** На 67-й хвіліне футбалісты з Рэчыцы зраўнялі лік, а на 84-й забілі пераможны гол.

– У першым тайме мы мелі галявыя моманты, але галкіпер саперніка быў на вышыні, – пракаментаваў ход матча сайту fc-smorgon.by галоўны трэнер ФК "Смаргонь" **Павел Бацюта**. – Другі тайм пачалі з хуткага гола. Пасля гэтага госці сталі гуляць больш актыўна ў зоне атакі, а наша лінія абароны занадта шмат дазваляла гульцам каманды саперніка.

Наступствам гэтага сталі два прапушчаныя галы. Спадзяюся, што пройгрыш стане папераджальным "халодным душам" для нашай каманды пасля серыі перамог і дазволіць выключыць дапушчаныя памылкі ў далейшым.

## Сталі вядомыя паўфіналісты

**ВІЛЕЙКА.** Тры астатнія чвэрцьфіналы традыцыйнага турніру па мініфутболе на штучным пакрыцці адбыліся 8 чэрвеня. "Юніёр" перамог "Шылавічы" 4:1, "Буддэталі" разграмілі "Маю сям'ю-2" 7:1, "Рубін" адолеў "Воўкаўшчыну" 6:2.

Такім чынам, у паўфінале згуляюць "Першы Беларускі" – "Буддэталі" і "Юніёр" – "Рубін", паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

## На турзлёце зноў перамаглі нарачанцы

**МЯДЗЕЛ.** На Мядзельшчыне 4-5 чэрвеня прайшоў раённы злёт юных турыстаў. Удзельнічалі ў ім каманды з шасці ўстаноў адукацыі.

Змагаліся яны ў спартыўным арыентаванні, тэхніцы турызму, конкурсах газет, быту, песні.

Перамаглі вучні Нарацкай сярэдняй школы №1, якія нікому не даюць усумніцца ў сваім статусе лепшых турыстаў ужо некалькі год. На другім месцы – каманда СШ №2 Мядзела, на трэцім – юныя турысты з Крывічоў.

## Лыжнікі спаборнічалі летам

**МЯДЗЕЛ.** У Плешчаніцах 30-31 мая прайшлі рэспубліканскія спаборніцтвы па агульнафізічнай падрыхтоўцы сярод лыжнікаў. Прынялі ў іх удзел выхаванцы Мядзельскай СДЮШАР.

**Анастасія Хацяновіч** заняла на спаборніцтвах першае месца, **Аляксандр Малько** – другое, паведаміла метадыст установы **Наталля Баран**.

## Ашмянец – чэмпіён свету па паўэрліфтынгу

**АШМЯНЫ. Ігар Юзяпчук** стаў чэмпіёнам свету па класічным паўэрліфтынгу ў вагавай катэгорыі да 66 кілаграмаў сярод юнакоў.

Чэмпіянат свету праходзіў у паўднёваафрыканскім горадзе Патчэфструм. Тры золаты – у трохбор'і, у прысяданні са штангай і ў жыме штангі лежачы – такі вынік выступлення навучэнца Ашмянскай школы-інтэрната, выхаванца спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс" міжраённай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы прафсаюзаў **Ігара Юзяпчука** на чэмпіянаце свету.

Ігар Юзяпчук у суме трохбор'я падняў 507,5 кілаграма, абагнаўшы тым самым свайго саперніка з Расіі на сем з паловай кілаграмаў.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАРАДКІ

# Каб перамагаць у гарадках, трэба ўпарта трэніравацца. Гэта ведае і шасцікласнік

**МАЛАДЗЕЧНА. Шасцікласнік з Маладзечна Дзмітры Шыран толькі два з паловай гады займаецца гарадкамі, а вынікаў ужо дасягнуў добрых. Прыкладам, выйграваў рэспубліканскія спаборніцтвы.**

**– Як гэтым відам спорту зацікавіўся?**

– У бабуліным доме жыве дзяўчынка Аляксандра. Яна займалася гарадкамі, бабуля пра гэта даведалася і мне параіла схадзіць на заняткі. Так і пачаў хадзіць.

**– Чым зацікавілі гарадкі?**

– Адразу паглядзеў, як дзеці гуляюць. Пачаў гуляць – спадабалася.

**– Правілы няцяжка было засвоіць?**

– Не. Яны кароткія і нескладаныя. Таму іх лёгка было вывучыць.

**– Якія ўжо дасягненні маеш?**

– Займаў першыя месцы ў чэмпіянаце рэспублікі ў сваёй узроставай групе (2001 год нараджэння і маладзейшыя). У Маскве ў турніры ўдзельнічаў. Але толькі 11-е месца заняў – не пайшла гульня.

**– Як лічыш, што трэба для паспяховага выступлення ў гарадках?**

– Трэба ўпарта трэніравацца – і ўсё, у прынцыпе.

**– Дзмітры, ці складана было навучыцца гуляць ў гарадкі?**

– Адразу не ўсё атрымлівалася, не туды трапляў. Але потым больш-менш стала атрымлівацца.

**– А хто ж цябе трэніруе?**

– Займаюся ў аддзяленні гарадошнага спорту Маладзечанскай спецыялізаванай СДЮШАР. Трэніруе мяне заслужаны трэнер Беларусі **Аляксандр Сучко.** Вельмі добры трэнер. Калі ёсць якія памылкі, то ён дапаможа, параіць, як іх выправіць.

**– Ці шмат трэніруешся?**

– Чатыры дні на тыдзень хаджу на заняткі.

**– Не надакучвае?**

– Не. Гарадкі – цікавы від спорту. Да таго ж тут і з сябрамі сустрэнешся.

**– Што самае цяжкае ў гарадках?**

– Засвоіць кідок. Таму што можа і кепскі, і добры атрымацца.

**– А што самае прыемнае?**

– Калі гульня ідзе – збіваеш усе фігуры.

**– Па тваім прыкладзе ці стаў хто гарадкамі займацца?**

– Так. Некалькі чалавек прыйшло займацца.

**– На твой погляд, што гэты від спорту развівае?**

– Сілу, трапнасць, рэакцыю.

**– Цяпер шмат нараканьць, што дзяцей цяжка захапіць спортам, шмат часу на камп'ютары марнуюць...**

– Мне ўсё роўна цікава. А на камп'ютар часу таксама хапае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Дзмітры Шыран паказвае мядзельчанам, як гуляць у гарадкі.

● ПАДЗЕЯ

# Рэгату на Нарачы хочуць зрабіць традыцыйнай

**МЯДЗЕЛ. Парусная рэгата "Кубак Нарачы" адбылася 7-8 чэрвеня. Спаборніцтвы на яхтах такога класа (ад 27 да 30 футаў) на возеры Нарач прайшлі ўпершыню за апошнія гады.**


Фота Георгія ПРЫСМАКОВА.

**Яхты з Беларусі змагаліся за "Кубак Нарачы".**

– Можна сказаць, што да гэтай рэгаты Нарач ужо год з трыццаць не бачыла сур'ёзных ветразяў, хіба што спаборнічалі на мікраяхтах – простых лодках з ветразем, – кажа адзін з арганізатараў **Аляксандр Таляронак**.

Аляксандр удзельнічаў у рэгатах у замежжы. І паспяхова. У 2011 годзе заняў першае месца ў рэгаце, якая праходзіла ў Польшчы на Мазурскіх азёрах. Гады чатыры ён катае адпачывальнікаў на яхце па Нарачы. А з цягам часу ўзнікла ідэя правесці тут рэгату.

– Ідэя з'явілася даўно – каб паказаць, што можам займацца сур'ёзнай справай, – прыгадвае ён. – Рыхталіся да рэгаты з самай зімы. Але, на жаль, па незалежных ад нас прычынах тэрміны ўсё пераносіліся. З-за гэтага не здолелі прыехаць госці з Польшчы і Расіі.

Першы дзень пачаўся са спаборніцтваў весляроў з Мядзельскай СДЮШАР.

Потым на кароткай дыстанцыі стартавалі яхтсмены. На Нарач прыехалі чатыры экіпажы з Беларусі – усяго 25 спартсменаў. Па выніках дня перамагла яхта "Зялёная" з Мінска (шкіпер – **Валерый Гарбар**, шкотавы – **Аляксандр Мароз**).

Вечарам спартсменаў і гледачоў чакаў канцэрт з удзелам сталічных артыстаў і святочны салют.

У другі дзень разыгралі "Кубак Нарачы". Тут яхтсмены спаборнічалі на вялікай дыстанцыі – склала яна 20 кіламетраў.

– Усе справіліся добра, без усялякіх надзвычайных сітуацый, – дзеліцца Аляксандр.

**– А як надвор'е, не падвяло?**

– У першы дзень вецер слабы быў, хуткасці не было. А ў другі дзень – вецер выдатны, усе на вялікіх хуткасцях хадзілі.

І другі дзень спаборніцтваў прынёс перамогу яхце "Зялёная" – "Кубак Нарачы" заваявала яна. На другім месцы – яхта "Морс" з Мінска. Шкіперам на ёй – **Раман Тарасевіч**, які калісьці вучыў у Мядзеле дзяцей хадзіць пад ветразем. Трэцяе месца на рахунку мядзельскіх яхтсменаў – яхта "Мара" (шкіпер **Казімір Куцкевіч**, шкотавы – **Алег Жыхар**).

– Мы ўпершыню спрабавалі свае сілы ў арганізацыі рэгаты, – дзеліцца Аляксандр Таляронак. – І ў далейшым хочам зрабіць яе традыцыйнай. На наступны год пастараемся дабіцца, каб на Нарач прыехалі яхтсмены з Польшчы і Расіі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | | | | | |
| | | 2 | 6 | | 3 | | | 9 |
| 6 | 5 | | | | | | | 1 |
| | 2 | 8 | | 7 | | | | |
| | 4 | | 2 | | 6 | | 9 | |
| | | | | 4 | | 7 | 5 | |
| 4 | | | | | | | 7 | 3 |
| 3 | | | 1 | | 7 | 2 | | |
| | | | | | 9 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ РЭГІЁНА


Фота Наталі ТУР.

**Выпускны баль 2014 адбыўся 11 чэрвеня. Школу з адзнакай скончылі 49 выпускнікоў Маладечанскага раёна. На здымку залатыя медалісткі СШ №12 Ганна Бурачонак і Аляксандра Комар: а ці сапраўдны медаль? Вызначым на зуб!**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

ПРЭМ'ЕРА! Камедыя "**Усё і адразу**" (Расія, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
13, 14 чэрвеня – у 21:00
15, 16 чэрвеня – у 19:00
17 чэрвеня – у 21:00
18 чэрвеня – у 19:00
Кошт білета – 40 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Грань будучага**", 3D (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
13, 14 чэрвеня – у 18:30
15 чэрвеня – у 16:30
18 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 40 000-50 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, 2014, гледачам да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 чэрвеня – у 14:00
15, 16 чэрвеня – у 21:00
18, 19 чэрвеня – у 17:00
Кошт білета – 20 000-30 000 рублёў

Фэнтэзі "**Малефісэнта**", 3D (ЗША, 2014, гледачам да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 чэрвеня – у 16:30
15 чэрвеня – у 14:30
17 чэрвеня – у 19:00
Кошт білета – 40 000-50 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Людзі Ікс: Дні мінулай будучыні**", 3D (ЗША, 2014, гледачам да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 чэрвеня – у 16:00
19 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 45 000-55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Рабінзон Крузэ: Правадыр піратаў**" (Аргенціна, 2011, гледачам да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 чэрвеня – у 17:30
14, 15 чэрвеня – у 15:00
16 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Белка і Стрэлка: Прыгоды на Месяцы**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
17, 18 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Трылер "**Уладанне 18**" (Расія, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
13, 14 чэрвеня – у 21:30
15 чэрвеня – у 17:30, 19:30
16 чэрвеня – у 21:30
17, 18 чэрвеня – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Змрочныя нябёсы**" (ЗША, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
13 чэрвеня – у 19:30
14 чэрвеня – у 17:30, 19:30
15 чэрвеня – у 21:30
17, 18 чэрвеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Экзамен для дваіх**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
13, 14, 15, 18 чэрвеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Уладанне 18**" (Расія, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
13, 14, 15,18 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя "**Кіндэрвілейскі прывід**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
14, 15 чэрвеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Палярны рэйс**" (Украіна, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 чэрвеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Драма "**Паганіні: Скрыпач Д'ябла**" (Італія, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
19 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП (13-19 ЧЭРВЕНЯ)


**Авен.** Не давайце волю страхам і забабонам, а то яны могуць сур'ёзна атруціць ваша жыццё. Не бярыце на сябе чужыя праблемы і нічога не адкладвайце на потым. Смела пачынайце новыя праекты і знаёмцеся з новымі людзьмі.


**Цялец.** Калі вы ідзяце ў адпачынак цяпер, то атрымаеце нямала задавальнення ад з карысцю праведзенага часу. Вы шмат дзе пабываеце і шмат чаго даведаецеся новага.


**Блізняты.** Час спрыяльны для кар'еры і вырашэння важных спраў.


**Рак.** Ваша інтэлектуальная актыўнасць – на вышыні, дзелавая хватка – таксама. У выхадныя не выключаны нечаканыя прыгоды, але здаровы розум пажадана не губляць.


**Леў.** Пераадолець цяжкасці і дабіцца добрых вынікаў вы зможаце толькі ў тым выпадку, калі будзеце цярплівыя і перастанеце патрабаваць ад жыцця ўсяго і адразу. Не адмаўляйцеся ад запрашэння сяброў у выхадныя.


**Дзева.** Магчыма, што на вашу галаву нечакана абрынуцца сямейныя праблемы, так што загадзя набярыцеся цярпення і сіл для іх вырашэння.


**Шалі.** Не паддавайцеся спакусам, своечасова адыходзьце ўбок і пераключайце ўвагу на штонебудзь іншае. Дыпламатычнасць і абаянне дазволяць вам пераадолець любыя перашкоды.


**Скарпіён.** Жывіце цяпер, радуйцеся ўсяму таму добраму, што прыносіць кожны дзень, і перастаньце думаць пра праблемы заўтрашняга дня.


**Стралец.** Не дражніце Фартуну і старайцеся трымаць сябе ў руках. Крыўдлівасць і амбіцыйнасць цяпер не прынясуць вам карысці, пажынаць плады сваёй працы вам давядзецца трохі пазней.


**Казярог.** У вас можа памяняцца меркаванне пра некаторых сяброў. Пры філасофскім падыходзе да жыцця вы лёгка выйдзеце на больш высокі ўзровень свядомасці.


**Вадалей.** Не адмаўляйцеся ад запрашэння, яго варта прыняць, і тады вы атрымаеце магчымасць займець, як мінімум, цікавага суразмоўцу.


**Рыбы.** Перыяд парадуе тых, хто схільны да творчай дзейнасці. А яшчэ дзякуючы сваім аналітычным здольнасцям вы можаце атрымаць ключ, які адчыніць дзверы да поспеху.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**14 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 / +17 | | +12 / +18 | | +12 / +19 | | +11 / +17 | |
| | 734 | → 6 | 733 | ↘ 6 | 740 | ↓ 4 | 743 | ↘ 6 |
| Вільня | +12 / +16 | | +12 / +17 | | +15 / +17 | | +10 / +17 | |
| | 743 | → 4 | 743 | ↘ 4 | 749 | ↙ 4 | 752 | ↙ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.37
Захад 21.48
Даўжыня дня 17.11

Усход 22,35
Захад 6.18
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- Прыйшоў Ерамей (13 чэрвеня)– больш не сей. Канец усялякай сяўбы.
- У чэрвені ўбачыць гаспадар, што Бог дасць у дар.
- Першы туман лета – добрая грыбная прыкмета.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ І КРАСНЫМ

# Як будзеце адпачываць гэтым летам?

**Кацярына Пішчулёва, школьніца, Краснае:**

– Лета я буду праводзіць са сваімі бацькамі і двума брацікамі. Яшчэ я паеду ў вёску да сваёй бабулі і планую папрацаваць. Праўда, пакуль не ведаю, дзе.



**Андрэй Шарамет, будаўнік, Краснае:**

– Адпачываць нікуды не паеду. Праца… Усё лета праца!



**Сяргей Барэль, інжынер-тэхнолаг, Маладзечна:**

– Гэтым летам толькі культурны адпачынак у кампаніі лепшых сяброў, на прыродзе. А там футбол, валейбол, скачкі з "тарзанкі" ў ваду, вогнішча . Будзе вясёлае лета.



**Вераніка Лагун, школьніца, Краснае:**

– Два месяцы буду ў бабулі. Дапамагаць ёй буду, сена сушыць, грады палоць. Ну, яшчэ з сябрамі буду ў лес хадзіць у чарніцы. Загараць буду, гуляць.



**Людміла Ладыгіна, вартаўнік, Краснае:**

– Летам чакаюць агароды! Дома буду, з унукам гуляць. А калі дадуць адпачынак, то з'езджу ў Віцебск.



**Аляксандр Стрэха, загадчык мехмайстэрні, Краснае:**

– У калгасе няма калі адпачываць! Працаваць буду летам. Зімой адпачнём.



**Падрыхтавалі Кацярына КАСЦЕВІЧ, Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **XIV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2014". Чым запомніцца і чым здзівіць свята песні і паэзіі?**

## Цікавыя факты са свету музыкі

- Леанарда да Вінчы віртуозна іграў на ліры.
- Сабачы вальс у розных краінах завецца па-рознаму. У Германіі, Бельгіі , Нідэрландах – блышыны вальс. У Балгарыі – каціны марш, а ў Фінляндыі – каціная полька. У Венгрыі – асліны марш, а ў Францыі яго чамусьці называюць адбіўной катлетай.
- Усё жывое аддае перавагу гарманічнай музыцы. Так, акулы, пачуўшы класічную музыку, збіраюцца ледзь не з усяго акіянскага ўзбярэжжа. Кветкі і расліны пад дзеяннем яе гукаў хутчэй выпростваюць свае пялёсткі і лісце.



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 24 (998) 13.06.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 502. Падпісана ў друк у 10.00 12.06.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.